ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

18 КРАСАВІКА 2003 г. № 16/4202 КОШТ 530 РУБ.

АНОНС!

## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

***Уладзімір ПАЎЛАЎ:***

"Чалавекалюбства, гуманізм і інтэрнацыяналізм набывае канкрэтнае напаўненне ад любві і пашаны найперш да свайго".

3



***"БЫЛО І ТАКОЕ..."***

— успаміны Хведара ЖЫЧКІ пра дні вясёлыя, пра справы былыя.

4-5



ВЫСТАВЫ



Фота Кастуся ДРОБАВА

Фотамастак Віктар ГАНЧАРЭНКА:

# «ПРАБАЧЦЕ, АЛЕ Я ТАК БАЧУ!»

*У зале мінскай бібліятэкі імя А. ПУШКІНА завяршае работу выстава фотаработ Віктара ГАНЧАРЭНКІ.*

Чытайце і глядзіце на стар. 12




# ЯК ТОЙ КАЗАЎ, А ГЭТЫ СЛУХАЎ...

"13-паласа" — старонка — гумару, пародый, перапеваў ды шаржаў.

Глядзіце на стар. 13

# КОЛА ДЗЁН

**Нарэшце, здаецца, прыйшла вясна. Сышоў снег, вярнуліся з выраю птушкі. Наперадзе ў нас Святы. А ў Іраку ўсё яшчэ ідзе вайна...**

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

У нас будзе свой нацыянальны касмічны спадарожнік — такі вынік нарады, якую правёў 8 красавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка з удзелам беларускіх і расійскіх вучоных. Праект канцэпцыі адзінай сістэмы дыстанцыйнага зандзіравання зямлі і стварэння нацыянальнага беларускага спадарожніка быў прадстаўлены кіраўніку дзяржавы ўжо даўно. Але рашэнне аб уступленні Беларусі ў перспектыве ў "клуб касмічных дзяржаў" не павінна прымацца спантанна, паколькі патрабуе пэўных сродкаў і рэсурсаў, лічыць Аляксандр Лукашэнка.

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

З 7 па 10 мая ў мінскім выставачным цэнтры пройдзе VII Міжнародная спецыялізаваная выстава "СМІ ў Беларусі". Плануецца, што побач з айчыннымі сродкамі масавай інфармацыі там будуць шырока прадстаўлены выданні Саюзнай дзяржавы, краін СНД і далёкага замежжа. Акрамя прэзентацыі СМІ ў праграме выставы — пасяджэнні "круглых сталоў" па праблемах развіцця айчыннага заканадаўства аб СМІ з удзелам прадстаўнікоў дзяржаўных і грамадскіх структур, а таксама семінары. У рамках выставы адбудзецца ўручэнне прэміі "За плённую працу ў беларускай журналістыцы".

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

10 красавіка рэспубліканскаму маладзёжнаму выданню "Знамя юности" споўнілася 65 гадоў. Жадаем супрацоўнікам "ЗЮ" творчага плёну і ўдзячных чытачоў.

### ПУЛЬС ТЫДНЯ

9 красавіка народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў выпісаны з клінікі ў Празе, дзе 27 сакавіка яму была зроблена складаная аперацыя на страўніку. Зараз пісьменнік адчувае сябе добра, улічваючы яго 79-гадовы ўзрост і хірургічнае ўмяшанне пад агульным наркозам. Урачы лічаць, што стан здароўя Васіля Уладзіміравіча дазваляе яму праходзіць рэабілітацыю дома.

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Згодна з рашэннем урада ў нашай краіне павышаюцца ўсе віды дзяржаўных стыпендый у сярэднім на 6 працэнтаў. Цяпер памер стыпендыі студэнтам ВНУ будзе вагацца ад 28330 да 45330 рублёў, студэнтам тэхнікумаў — ад 23775 да 38030, навучэнцам ПТВ — ад 15310 да 24490 рублёў. Аднячасова памер сацыяльнай стыпендыі для студэнтаў ВНУ складзе 22800, тэхнікумаў — 18240, навучэнцаў ПТВ — 8470 рублёў.

### КЛОПАТ ТЫДНЯ

Вучні больш як палавіны ўсіх агульнаадукацыйных школ нашай краіны забяспечаны гарачым харчаваннем. Гэта на 20 працэнтаў больш, чым было ў красавіку мінулага года. Такія дадзеныя прагучалі на рэспубліканскім семінары ў Мінску, які быў прысвечаны дзяржаўнаму нагляду за новымі формамі арганізацыі харчавання школьнікаў.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Паводле звестак дэпартамента па занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, з пачатку года па дапамогу ў пошуках працы звярнулася 75, 1 тыс. грамадзян нашай краіны. За гэты час адзначана павелічэнне колькасці толькі афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных, больш чым на 15 тысяч чалавек. Зараз у сярэднім на адну ўмоўную вакансію прыпадае 5 беспрацоўных.

### ЗАМЕНА ТЫДНЯ

З 15 красавіка для абанентаў Мінска і Мінскага раёна ўводзіцца новая заказная служба міжгародніх і міжнародных тэлефонных перамоў па нумары 071. Новая служба 071 заменіць дзве існаваўшыя раней службы — міжгароднюю 07 і міжнародную 080.

### ПАВЫШЭННЕ ТЫДНЯ

З мэтай павышэння зацікаўленасці насельніцтва ў зборы зваротнай шкляной тары і ўлічваючы рост адпускных цэн на новы посуд, Міністэрства экалогіі прыняло пастанову "Аб залогавых цэнах на шклатару". Цяпер бутэлька піўная рудога і зялёнага колеру ёмістасцю 0,5 літра каштуе 80 рублёў, бутэлька з-пад гарэлкі пад вінтавую закаркоўку ёмістасцю 0,5 літра — 100 рублёў, а ёмістасцю 0,7—0,8 — 130 рублёў. Слоікі для кансерваванай прадукцыі ёмістасцю 0,25 літра каштуюць 60 рублёў.



ЭКСКЛЮЗІЎ

# «ГАМЛЕТ» ПА-ПОЛЬСКУ



***П'еса Шэкспіра "Гамлет" адна з самых папулярных у тэатральных творцаў. Спазнаць, разгадаць трагедыю прынца Дацкага імкнуцца і ў класічных, і ў эксперыментальных сцэнічных афарбоўках. 9 красавіка ў мінчукоў была магчымасць паглядзець толькі адзін (эксклюзіўны) монаспектакль "Гамлет" у рэжысуры Кшыштафа Копкі (Польшча), прэм'ера якога адбылася зусім нядаўна, у верасні 2002 года. На сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі (паказ спектакля ладзілі Беларускі цэнтр міжнароднага інстытута тэатра (ЮНЕСКА і РТБД) ролю Гамлета разыграў лаўрэат міжнародных тэатральных фестываляў, акцёр Пётр Кондрат.***

...Упрасторы чорнай каробкі сцэны Гамлет з'яўляецца ў шэрым паліто, з чамаданам у руках. Прынц Дацкі ад'язджае (з Радзімы, жыцця), распавядаючы марным развакам (гэта значыць гледачам у зале) сваю гісторыю. Гамлет запальвае свечкі, кожная з іх сімвалізуе астатніх персанажаў п'есы: Афелію, Палонія, Клаўдзія... На гэтым умоўным вакзале-сцэне прынц Дацкі і сумуе, і плача, і смяецца, і злуецца, уводзячы нас у трагедыю здрадніцтва і нянавісці, свайго выбару паміж дараваннем, любоўю (быць?) і прагай забойства, помсты (не быць?). У выкананні П. Кондрата маналог Гамлета гучыць як напеўны верш, набліжаючы монадраму да выканаўчых вышынь старажытнагрэчаскіх трагедый. П. Кондрат па-майстэрску іграе голасам, прыцягвае ўвагу публікі незвычайна пластычнымі рухамі, адметнай мімікай, жэстамі, характэрнымі для душэўна стомленага чалавека, які імкнецца ўбачыць у кавалку люстэрка свой лёс...

Паступова тухнуць свечкі: адыходзяць з жыцця Афелія, Палоній, Клаўдзій... Нарэшце ад'язджае і Гамлет, сумная гісторыя якога доўжылася на сцэне толькі пяцьдзесят хвілін.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКУ: Гамлет (П. КОНДРАТ).*

ВЕЧАРЫНЫ

# «МОЙ РОДНЫ КУТ...»

***У Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі адбылася чарговая музычна-паэтычная сустрэча з цыкла "Вечары беларускай паэзіі і музыкі". Зноў аматары нацыянальнай культуры апынуліся ў чароўнай атмасферы твораў беларускіх аўтараў мінулага і сучаснасці. Гэтым разам агульнай тэмай вечарыны сталася любоў да роднай Беларусі. Паэты і кампазітары праз уласныя творы пранікалі ў сэрцы прысутных, дорачы ім свята сваіх асабістых пачуццяў да Бацькаўшчыны.***

Паэтычная частка, удзельнікаў якой прадстаўляў А. Кныш, радавала душу і слых вершамі У. Дубоўкі, Х. Гурыновіча, Н. Гілевіча, якія прагучалі ў цудоўным выкананні студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ. Любоў да Беларусі выказалі сваімі творамі ўжо знаёмыя нам маладыя паэты І. Сіроткін ды І. Аляксеенка. Асаблівую ўвагу прыцягнула прэзентацыя кнігі В. Стралко з перакладамі твораў беларускіх класікаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча на ўкраінскую мову і твораў украінскай класічнай паэзіі (Т. Шаўчэнка) на беларускую. Прысутныя атрымалі магчымасць азнаёміцца з найбольш значнымі "пунктамі" біяграфіі перакладчыка. Нечаканым "адхіленнем" ва ўкраінскую нацыянальную культуру і мову стаўся агучаны самім В. Стралко ўрывак з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля". Першы радок якой стаў тэматычным эпіграфам усёй вечарыны.

Музычная частка імпрэзы прыемна здзівіла сваёй разнастайнасцю: у праграме былі прадстаўлены вакальныя ды інструментальныя творы — як сольныя, так і для розных ансамблевых складаў выканаўцаў. Іх паслядоўнасць стварыла арганічны рух ад музыкі беларускіх кампазітараў-класікаў ("Мелодыя" А. Туранкова ў выкананні К. Косціна адкрыла вечарыну) да твораў сучасных аўтараў (Л. Мурашка, Г. Кароткіна, В. Жывалеўскі). Кампазітары, якія прысутнічалі ў зале, пачулі сваю музыку ў натхнёным выкананні студэнтаў БАМ, здольных пранікнуць у сэнс сучаснай музыкі, вельмі складанай не толькі тэхнічна, але і зместава. Элементы канцэрта-лекцыі адчуліся ў кароткіх паведамленнях вядучай Э. Скуратавай пра тых аўтараў, якіх магла не ведаць шырокая аўдыторыя слухачоў. Кульмінацыяй вечарыны прагучала яскравае, артыстычнае выступленне В. Сотнікавай — салісткі Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Новую ступень развіцця набыло супрацоўніцтва студэнтаў БДУ і БАМ. Творчыя кантакты дзвюх ВНУ узбагаціліся новымі талентамі. Гэта навучэнкі Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі К. Рэут, В. Альхоўская, А. Дземідзенка. Выкананае імі трыо Г. Кароткінай "Званы Беларусі" ўразіла майстэрствам адпрацоўкі дэталяў і глыбокім пранікненнем у настрой твора.

Згаданая вечарына сталася апошняй у гэтым канцэртным сезоне, але працяг серыі "Вечароў беларускай паэзіі і музыкі" абавязкова прынясе аматарам нацыянальнай культуры новыя сустрэчы і новыя ўражанні.

**Марына МРАЧКО, студэнтка III курса БАМ**

АКТУАЛЬНА

# КЛОПАТ ПРА ТАЛЕНТЫ

***На мінулым тыдні зацверджана новая рэдакцыя Палажэння аб Спецыяльным фондзе Прэзідэнта РБ па падрымцы таленавітай моладзі. Пра адпаведны прэзідэнцкі Указ паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы.***

Абноўлены дакумент удакладняе парадак размеркавання сродкаў фонду дзеля забеспячэння пераважнага накіравання іх на заахвочванне юных талентаў, якія дамагліся высокіх дасягненняў у мастацтве, і на правядзенне культурніцкіх акцый у падтрымку дзіцячай і маладзёжнай творчасці.

І гэтая, і некаторыя іншыя адметнасці новай рэдакцыі Палажэння аб Спецыяльным фондзе паспрыяюць удасканаленню яго працы, наданню фінансавай падтрымцы (якая ім і накіроўваецца) большай мэтанакіраванасці ды адрасная. Гэта дазволіць таксама павысіць эфектыўнасць кантролю за расходаваннем сродкаў, што выдаюцца фондам. А падтрымліваць у нас, дзякуй Богу, ёсць каго. Імёны стыпендыятаў фонду складаюць ужо даволі доўгі пералік. І колькасць юных талентаў, адзначаных прэстыжнай стыпендыяй, па-ранейшаму расце...

**Н. К**

# ПОМНІЦЬ СЯБЕ

## Адкрыты ЛІСТ ПРАЗАІКУ УЛАДЗІМІРУ ГАЎРЫЛОВІЧУ

Паважаны Уладзімір Мікалаевіч! Пішa Вам цёзка — Уладзімір Паўлаў. Мы з Вамі знаёмы, можна сказаць, шапачна. Першы раз бачыліся ў Жыткавічах на куставой нарадзе работнікаў культуры, другі раз — у Доме літаратара ў дзень Вашага прыёму ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Ну, а пішу Вам наогул упершыню, узяўшы адрас у Валодзі Саламахі ў "ЛіМе".

Чаму пра гэта падрабязна? А таму, каб у сяго-таго, каму трапіцца на вочы пісьмо, не ўзнікла думка, што мы з Вамі даўнія сябры-таварышы і пішу Вам з самых цесных прыяцельскіх адносінаў.

21 сакавіка штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" надрукаваў Ваш матэрыял пра Міколу Гамолку "І Якуб Колас блаславіў...". У артыкуле згадваецца, што Вашых родных на пачатку Вялікай Айчыннай вайны акупанты выселілі ў чужую вёску Найда, пра якую дзед Ігнат Адамавіч у дзень Перамогі гаварыў так: "Найду, хоць і малая вёсачка, праславіла дабрыня". З гэтай маленькай вёсачкі выйшлі Герой Савецкага Саюза Васіль Кот і пісьменнік Мікола Гамолка. І далей: "Потым падросшы, чытаючы Міколу Гамолку, пераканаўся і сам: праўду аб ім казаў дзядуля мой, пісьменны селянін, які газеты і кнігі чытаў. Мне здавалася, што ўсё, што адбываецца ў творах пісьменніка,



адбываецца на нашым прылеску, каля *нашага князь-возера..*, Настолькі блізкія і зразумелыя сюжэты, захапляючыя прыгоды, прырода..."

І яшчэ адна цытата, каб да іх больш не звяртацца: "...у М. Гамолкі былі складаныя ўзаемаадносіны з крытыкай. Так атрымлівалася, што амаль кожны яго твор, які толькі выходзіў з друку, адразу ж знаходзіў свайго чытача, а ў рэцэнзентаў — не вельмі зычлівую ацэнку. Выдаўцы з Масквы і Кіева друкавалі кнігі нашага пісьменніка, а ў сябе дома... Але радуе, што аб творах майго земляка цёпла адзываліся вядомыя пісьменнікі Васіль Быкаў, Віктар Казько, Уладзімір Дудзінцаў".

Што праўда, то праўда. І ў першым і ў другім выпадку.

Мне давялося двойчы працаваць з Міколам Іванавічам пад адным дахам — на пачатку сямідзесятых і ў сярэдзіне васьмідзесятых. Мы былі кансультантамі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У сямідзесятых саюз месціўся па адрасе: Энгельса, 9. Гэты дом мінчане, ды і многія-многія, ведалі як "дом Кубэ". 22.9.1943 года Генеральны камісар Генеральнай акругі Беларусі, прызначаны на гэту пасаду Гітлерам, Кубэ Рыхард Паўль Вільгельм быў знішчаны патрыётамі ў выніку выбуху міны ва ўласнай кватэры ў Мінску. *Не кожная краіна, не толькі не* кожны горад, за гады супраціўлення фашызму мелі нешта падобнае. Арганізаваць бы у гэтым доме музей гераічнага і пакутнага мінскага падполля, дык не: праз гады пасля вайны ўзарвалі самі. Падумаеш, святыня. Набудуем новых дамоў. Так, і ўзарвалі з-за таго, што прыбудоўвалася яшчэ адно крыло будынка ЦК КПБ, сёння вядомага па адрасе: К. Маркса, 38 — Чырвоны дом. А домік, дзе быў здзейснены гераічны подзвіг падпольшчыкамі: прысуду беларускага народа, узарвалі. Стаяў ён наводшыбе ўнізе таго крыла, якое прыбудоўвалі. Каб было прыстанішча пісьменнікам, пабудавалі ім Дом літаратара па вуліцы Фрунзе, 5. Сам Машэраў трымаў гэтае будаўніцтва на кантролі, неаднойчы прыязджаў, правяраў як яно ідзе. Нацешыліся пісьменнікі не надта. Летам 1997 года дом страціў...

Усё, што вы пішаце пра Міколу Гамолку — *святая праўда*. Ён быў найсумленнейшай душы чалавек. І такой жа дабрыні. Здавалася, што ён сам, па росце і паставе — волат, саромеўся гэтага. Як большасць, дарэчы, мужных і дужых людзей.

Завочна ведаў я Міколу Гамолку са школьных гадоў, калі атрымліваў пісьмы ад загадчыка аддзела літаратуры і мастацтва газеты "Чырвоная змена". На мае першыя спробы пяра адказы даваў ён.

Пасля двух паэтычных зборнікаў Мікола Іванавіч стала перайшоў на прозу. І не абы-якую. Ва ўсіх кнігарнях і кіёсках у самым канцы пяцідзесятых гадоў з'явіўся яго раман "Шосты акіян". Калі мерадь фізічнымі габарытамі — цэлая цагліна. Але гэтая "цагліна" не была абузай для кнігагандляроў, яна хутка разышлася.

"Шосты акіян" з'явіўся не першым у новым жанры пісьменніка. Былі кнігі і "да" і "пасля".

Пра кнігу, якая мелася з'явіцца "пасля", хочацца згадаць, расказаць, што ведаю. З-за яе, калі хочаце, я і ўзяўся за пяро, каб напісаць вам.

Спачатку пайшла чутка: Гамолка напісаў новы раман. Ды не раман, а эпапею, паэму ў прозе, як у Гогаля і ў Караткевіча. Ды аб'ёмную. Не толькі па маштабе падзей, а і аркушова. Адных машынапісных старонак больш за тысячу.

Чуткі не змаўкалі доўга, аж да несуцяшальнай: выдавецтва адмовілася выдаваць новы твор Міколы Іванавіча. Маўляў, з-за аб'ёму. Тады аўтар згадзіўся скараціць твор аж на дзесяць (!) друкаваных аркушаў. На цэлую кнігу. *Не памагло.* Не ў тым была прычына, аказваецца. А ў нечым іншым. Пра гэта ў развагах ніжэй.

Ужо ў новым Доме літаратара ён даў свой твор пачытаць і мне. Для яго, вядома, я не быў апошняй інстанцыяй у спрэчцы быць або не быць. Думаю, чалавеку запатрабавалася думка чалавека не зацікаўленая, з боку, свайго малодшага калегі, якому не трэба цясніцца на Алімпе, каб даць месца камусьці яшчэ.

Я прачытаў. З цікавасцю і задавальненнем. *Павіншаваў аўтара з удачай.* Параіў не рабіць ніякіх скарачэнняў. Падзеі (пачатак вайны) разгортваліся натуральна і шырока. Былі пазнавальныя Палессе, Прыпяць. Твор насялялі працавітыя і добрыя людзі. А тут такая навала. Браліся за зброю, каб бараніць сябе, сваіх дзяцей, свой дом. Мікола Іванавіч дасягнуў новай удачы. Яшчэ раз сказаў яму пра гэта.

Дык у чым жа справа, чаму не хочуць друкаваць?

Дазволю сабе, ужо сённяшняму, зрабіць некалькі адступленняў, пашукаць аналагу на прыкладах. Хоць і тады ўсё вымалёўвалася яскрава.

Гавораць, аднаму ўсё жыццё радасць, а другі ўсё жыццё праз качаргу скача. Дык вось.

Паэты Пятрусь Макаль і Сцяпан Гаўрусёў былі прыняты ў Саюз пісьменнікаў гады за два да выхаду першых сваіх зборнікаў. У дадзеным выпадку няма нічога дзіўнага — яны былі вельмі здольнымі паэтамі, сапраўднымі лірыкамі, маштабна, вобразна глядзелі на свет і гэтак жа адлюстроўвалі яго ў сваіх творах.

А тыя ж Яўген Крупенька і Уладзімір Правасуд сталі членамі творчага саюза пасля некалькіх заходаў і 7—10 кніжак. Не пафарціла трапіць у так званыя абоймы. Абойма, як вядома, змяшчала пяць патронаў — месца ўсім не хопіць. Таму можна не на кожнага звяртаць увагу, знайсці прычыну "адлучэння ад раю". А калі ты яшчэ дабрак, або, барані Бог, можаш зазірнуць у чарку не пад коўдрай, а на людзях, маеш вясёлы — "несур'ёзны" — характар, то ва ўсім станавіся ў канец чаргі. Рахманае цялятка дзве маткі ссе. *Пра гэта паказальны выпадак з дзяржаўнымі прэміямі.* Імя Янкі Купалы і Якуба Коласа. Здаецца, яны ўжо абышлі ўсіх. Тады прыдумалі зрабіць гэтыя прэміі рэспубліканскімі, увёўшы слова "дзяржаўныя". І ўсё пайшло па новым крузе. Не гавару, што іх атрымлівалі няздары, але ў першую чаргу "рахманыя".

Па згаданых прычынах — талент ад Бога — Сцяпан Гаўрусёў стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі СП БССР імя Аркадзя Куляшова толькі за год да смерці — у 1987 годзе. Таксама згаданы ўжо Яўген Крупенька, асабліва пасля маскоўскага інстытута імя Горкага насуперак спадзяванням "дабрадзеяў" стаў выбітным лірыкам, напісаў шчымлівыя зборнікі, вянок санетаў. Пераклаў на сучасную беларускую мову "Слова аб палку Ігаравым", вялікая сіла якога ў свой час паланіла і прызвала на пераклад, як сцвярджае "Беларуская энцыклапедыя" (т. 15, стар. 11), Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлю, Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага. Наступным быў Яўген Крупенька. У закрытай рэцэнзіі яго пераклад атрымаў высокую ацэнку. Але калі быў "раскрыты" аўтар, усе як вады ў рот набралі. Як гэта: Крупенька? Ды як ён пасмеў! І пераклад убачыў свет поўнасцю *толькі пасля смерці паэта*. Гэта здарылася ў 1994 годзе.

Ці яшчэ адзін дабрак з дабракоў — Віктар Шымук. Узяць яго "Баладу пра маці" ("Чатыры дубочкі — чатыры сыночкі"). Музыку стварыў кампазітар Іван Кузняцоў. Кожнаму б такая ўдача!

І яны не былі пушчаны на Парнас, быццам месца там купленае, быццам нехта за яго ўжо заплаціў грошы. Працуйце, дзярзайце, не зайздросце. Месца там на кожнага хопіць!

На зямлі няма ідэальнага чалавека, як няма і святога. Адна з заган нас, грэшных, у тым, што мы самі ўзвялічваем сябе перад іншымі без меры, патрабуючы ад суседа, каб ён быў святым, а мне, маўляў, усё дазволена. А калі той жа сусед дамогся поспеху сваёй жа, вядома, працай, узнімаецца гвалт, многіх пачынае загрызаць зайздрасць — самае паганае, што існуе на зямлі. Ад яе і ўсе беды, і, у першую чаргу, несправядлівасць. Нехта можа спаслацца на народнае: калі худ, не лезь на кут. Слушна, канечне, як слушна і наступнае: жывеш сам, дай пажыць іншым, не пераходзь яму дарогі.

Думаецца, што Міколу Гамолку часта жылося не так як трэба з-за... яго дабрыні. Гэта не тая браня, на жаль, за якой у наш прагматычны час можна схавацца. А *калі хто-ніхто ўбачыў*, што ты *падраўняўся* з ім або нават у нечым абагнаў, — рыхтуйся да горшага. Зайдрасць не дрэмле! Людскі вопыт паказвае, як ні горка пра гэта казаць, — дабрыня штука небяспечная.

Парады даваць лёгка, а здзяйсняць іх няпроста. І ўсё ж выкажу тое, дзеля чаго ўзяўся за гэты адкрыты ліст Вам. Трэба адшукаць той, на тысячу старонак, твор Міколы Гамолкі. Можа, у музеі літаратуры, а найперш, відаць, у яго родных. Трэба прапанаваць таму ж "Полымю" — яны друкуюць літаратурную спадчыну. Трэба выдаць гэтую кнігу. Калі не ў дзяржаўным выдавецтве, то знайшоўшы спонсараў. Скажуць: няма грошай?! А дзе вы чулі, каб нехта казаў, што яны ёсць? Іх няма, не хапае, колькі б хто не меў. І наўрад ці настануць дні, калі іх стане ўдосталь. Але жыццё не спыняецца. Возьмем ваенны час. На кожным кроку смерць, кроў, пакуты. Але жыло каханне, *спраўлялі вяселлі, нараджаліся* дзеці, сваёй смерцю паміралі людзі. (Выдатна пра гэта ў апавяданні Валянціна Тараса "Непраўдападобная смерць".) Найперш, спадзяюся, паможа родны раён, знойдуцца спонсары-землякі. Верыцца пасля прачытання артыкула "І Якуб Колас блаславіў..." вам, Уладзімір Мікалаевіч, будзе па сілах зрабіць гэта.

І яшчэ. У Жлобіне ўстаноўлена літаратурная прэмія імя Аляксандра Капусціна. Родам ён адтуль. Падпольшчык, партызан, воін. Ганаровы грамадзянін Жлобіна. І прэмія яго імя — гэта вялікі помнік знанаму земляку.

Было б выдатна мець падобную прэмію і на радзіме Міколы Гамолкі. Яго імя. І ўзнагароджваць ёй вартых не толькі літаратараў, *але і іншых працаўнікоў на ніве культуры*: мастакоў, кампазітараў, разьбяроў, майстроў па пляценні і ткацтве, бібліятэкараў і бондараў, асобныя калектывы мастацкай самадзейнасці. Ды гэта ўжо амаль прыватная заўвага. Была б прэмія, а прысудзіць каму знойдзецца заўсёды. Таленавітых людзей у нас хапае.

Чалавекалюбства, гуманізм і інтэрнацыяналізм набывае канкрэтнае напаўненне ад любві і пашаны найперш да свайго. Іначай пералічаныя высокія паняцці — пусты гук. Ставіць помнікі спярша трэба на родных магілках.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ**



# ПОКЛІЧ ЧАСУ

**Штогод у нашай культуры адбываюцца важныя падзеі. Значная колькасць іх мае непасрэднае *дачыненне да выставы* "Покліч", якая працуе ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. У гэтым годзе грамадскасць ужо адзначыла 110 гадоў з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. У мерапрыемствах па святкаванні юбілею пісьменніка прынялі ўдзел Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАНБ, Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Рэспубліканскі фонд імя братоў Гарэцкіх.**

**Пачаткам святочных урачыстасцей стала прэзентацыя кнігі Тэрэзы Голуб "У творчай майстэрні класіка".**

**У рамках святкавання 110-годдзя супрацоўнікамі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва была падрыхтавана сумесная выстава "З архіва сям'і Гарэцкіх", на якой змешчаны унікальныя матэрыялы. Упершыню прадстаўлены арыгінальныя фотаздымкі сям'і Гарэцкіх, асабістыя рэчы Максіма Гарэцкага, рукапісы п'ес "Паміхі" і "Жалобная камедыя", забароненыя ў 20-я гады, апошнія запіскі пісьменніка з турмы да сваёй жонкі, асабістыя рэчы Леаніды Чарняўскай і Галіны Максімаўны Гарэцкай. Большая частка матэрыялаў з архіва сям'і Гарэцкіх трапіла на Беларусь, дзякуючы дачцэ пісьменніка Галіне Максімаўне.**

**Заключным акордам юбілейных мерапрыемстваў сталі 11-я Гарэцкія чытанні "Максім Гарэцкі. Літаратурна-мастацкая, грамадска-культурная дзейнасць і яе асэнсаванне". Сярод шаноўных гасцей, якія віталі ўдзельнікаў, былі народны пісьменнік Беларусі Я. Брыль, народны паэт Беларусі Н. Гілевіч, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў А. Пашкевіч. На пленарным пасяджэнні выступілі акадэмік НАНБ Р. Гарэцкі, член-карэспандэнт НАНБ Міхась Мушынскі, кандыдат філалагічных навук Г. Праневіч, кандыдат філалагічных навук Л. Гаранін, гісторык А. Сідарэвіч. Удзельнікі Гарэцкіх чытанняў прадстаўлялі самыя розныя навуковыя ўстановы Мінска, Брэста, Віцебска, Баранавіч, Горак.**



**У красавіку літаратурны музей зноў вітаў гасцей. Нагода была і не адна. Ужо адсвяткавалі на радзіме паэта Тодара Кляшторнага яго 100-годдзе, але наперадзе 80 гадоў з часу заснавання літаратурна-мастацкага аб'яднання "Маладняк". "Покліч" у чарговы раз сабраў родных і блізкіх нашых пісьменнікаў. Сапраўды, творы таго пакалення былі поклічам свайго часу, сваёй эпохі, але звернутыя і да нас, да нашчадкаў.**

**Чарговы агляд знаёмай экспазіцыі стаў пачаткам вечарыны. Кожны прыпыніўся каля "сваіх" вітрын, каб яшчэ раз пакланіцца памяці родных. Сярод гасцей былі і тыя, хто прысутнічаў на адкрыцці выставы больш за дзесяць гадоў таму назад. І таму, відаць, невыпадкова размову на вечарыне пачаў Міхаіл Пратасевіч, адзін з тых, хто стаяў ля вытокаў "Покліча".**

**Пісьменнік Н. Гальпяровіч гаварыў пра асабістыя адносіны да літаратуры 20-30-х гадоў, пра яе ўплыў на сучаснасць.**

**Літаратуразнаўца Л. Савік падзялілася сваімі разважаннямі пра падзеі, якія адбываліся на Беларусі ў 20—30 гады. Яна доўга працавала ў архівах і знайшла шмат цікавых, унікальных дакументаў, якія паступова раскрывалі тайну тых трагічных гадоў. *Пра сваю працу расказала* і дырэктар Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Г.Запартыка. Потым гучалі вершы, празаічныя творы, успаміны тых, хто на пачатку XX ст. імкнуўся стварыць новую беларускую літаратуру, хто імкнуўся ўзняць яе да еўрапейскага ўзроўню.**

**У атмасферы ўзаемаразумення і добразычлівасці самым набалелым, самым патаемным дзяліліся з прысутнымі Мая Тодараўна Кляшторная, Маргарыта Мікалеўна і Вольга Мікалаеўна Ніканові́ч, Валянціна Аркадзьеўна Куляшова, Радаміра Міхайлаўна Балакіна (дачка Міхася Зарэцкага), Зоя Мікалаеўна Атраховіч (нявестка Кандрата Крапівы), Лідзія Маркаўна Малініна (пляменніца Алеся Дудара), Рагнеда Мікалаеўна Раманоўская, Ларыса Пятроўна Глебка. Многа гаварылася пра той час, і вельмі трагічны, і вельмі неадназначны ў гісторыі беларускай літаратуры XX ст. Але не ўсё яшчэ сказана, наперадзе — 100-годдзе Платона Галавача, прэзентацыя кнігі пляменніка Валерыя Маракова Леаніда Маракова.**

**Вольга ГУЛЕВА**

ЛІМ-ЧАСАПІС

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

**Прагpама "Брама" прадстаўляе ў аўторак, 22 красавіка, пісьменніка Франца Сіўко. Пра справы віцебскіх літаратараў, пра творчыя здабыткі пісьменніка гутарыць аўтар і вядучы праграмы Навум Гальпяровіч.**

**У сераду, як звычайна, як дарэчы і "Брама" — у 22.30 прагучыць аўтарская праграма Святланы Шалімы "Авансцэна", у чацвер — праграма Галіны Шаблінскай "Палітра".**

**"Чаго няма ў беларускай літаратуры", — так назвала тэму свайго чарговага "Сентыментальнага палявання" Ірына Шаўлякова. Перадача прагучыць у пятніцу ў 22 гадзіны 30 хвілін.**

**Як заўсёды, насычаным і цікавым будзе "Літаратурны праспект", які вядзе Алесь Бадак. Ён прагучыць у суботу ў 10.45. Дарэчы, асобна хочацца сказаць пра рубрыку "Вольны палёт". У ёй аўтар распавядае пра цікавыя факты з жыцця вядомых пісьменнікаў.**

**"Кароткія гісторыі" — штодзённа пасля 12 ночы прапануюцца шэдэўры айчыннай і сусветнай літаратуры.**

**У суботу ў 17 гадзін — Клас і К". Госць студыі ў жывым эфіры. Маргарыта Прохар будзе гутарыць з Галінай Багданавай. У нядзелю ўвагу слухачоў павінны выклікаць праекты "Беларускі альбом" (у 14 гадзін), "Радыёпарк" (у 17 гадзін) і "Канцэртная зала" (у 21.30).**

**На канале "Культура" — "Імгненні паэзіі" — штодзённа ў праграме "Мелодыі абуджэння". У "Клубе дамаседаў" — літаратурныя чытанні. У. Караткевіч. "Цыганскі кароль". Штодзённа, акрамя суботы і нядзелі.**

**У панядзелак. 17 гадзін. "З фондаў радыё". А. Дудараў "Вечар". Частка другая. П. Глебка "Крыло раніцы". Вершы.**

**У аўторак. З $12^{10}$ да 17.00. Галіна Шаблінская прадстаўляе праграмы "Дзеяслоў", "Ліставанні", "Гаспода", "Натхненне" і інш. У 17.00 — "З фондаў радыё". П. Пестрак "Лясная песня". І. Навуменка "Трымценне дубовага лісця".**

**У пятніцу на канале "Культура" ў 17.00 — "З фондаў радыё". І. Чыгрынаў "Хто вінаваты?" Радыёспектакль. Частка другая.**

**У суботу прагучаць паўторы праграм "Сентыментальнае паляванне (9.00), "Гаспода" (10.00), "Брама" (15.45). У 19.00 — "Музычны радыётэатр".**

**У нядзелю — "Тэатр перад мікрафонам". С. Кавалёў "Саламея Русецкая". Спектакль.**

**Н. К.**

---

**• 2 красавіка з мэтай азнаямлення са справамі ў абласной пісьменніцкай арганізацыі Брэст наведалі старшыня СБП А. Пашкевіч і ягоныя намеснікі — Б. Пятровіч і М. Скобла. Кіраўнікі СБП выступілі перад студэнтамі філфака БДУ імя А. С. Пушкіна, супрацоўнікамі і чытачамі Брэсцкай абласной бібліятэкі і вернікамі мясцовай уніяцкай царквы. Сустрэчы адбыліся пры ўдзеле пісьменнікаў Брэстчыны: В. Дэбіша, А. Крэйдзіча, В. Вашэкі, А. Паплаўскага... Прадстаўляў сталічных гасцей і вёў імпрэзы сакратар абласнога аддзялення СБП А. Каско.**

**• "Не магу жыць без крыл" — пад такім назовам 5 красавіка ў мінскім Палацы дзяцей і моладзі прайшла творчая вечарына паэта і барда Э. Акуліна. На імпрэзе прагучалі добра вядомыя і новыя песні, якія ўвайшлі ў прэзентаваны кампакт-дыск аўтара "На пачатку была песня". Э. Акулін пазнаёміў слухачоў з вершамі, напісанымі цягам апошніх гадоў і, якія, па словах паэта, неўзабаве павінны выйсці асобнай кнігай.**

**•7 красавіка ў вялікай зале Дома літаратара адбылася літаратурная вечарына "Заспявай мне песню..." — з нагоды 20-х угодкаў з дня смерці Ларысы Геніюш. У імпрэзе ўзялі ўдзел: Д. Бічэль, Т. Сапач, Г. Сяргеева... Гучалі песні на словы паэткі ў выкананні барда П. Русава. Студэнцкі тэатр пад кіраўніцтвам В. Мазынскага паказаў інсцэніроўку паводле "лагерных" твораў Л. Геніюш. Ад кіраўніцтва СБП выступіў намеснік старшыні М. Скобла. Вяла вечарыну А. Вячорка.**

**ЯнАк**

ЗГАДКІ

# БЫЛО І ТАКОЕ...

**Хведар ЖЫЧКА**



## ПАРТРЭТ ЦЁТКІ

У "Дні паэзіі, 1966", укладальнікамі і выдавецкім рэдактарам якога давялося мне быць, змешчаны дзве "накідкі" з партрэтамі Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Цёткі і Кандрата Крапівы.Калі ў выдавецтва паступілі сігнальныя экземпляры кнігі, выявілася памылка ў подпісе пад партрэтам Цёткі: замест "Да 90-годдзя..." надрукавана "Да 80-годдзя..."

Мастацкім рэдактарам кнігі быў Леанід Прагін, які, як заўсёды, зацягнуў падрыхтоўку ілюстрацый і здаў іх у друк без маёй візы — уся віна клалася на яго. Але ж і мне чакаліся непрыемнасці: чаму не прасачыў?

Страшна было, каб хто ні "капнуў" дырэктару ці, яшчэ горш, у вышэйшыя інстанцыі. І мы з Леанідам вырашылі хуценька, да "выкрыцця", выправіць памылку. Кніга друкавалася на паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа... Сазваніліся: не, яшчэ не пачыналі брашураваць. Значыць, паспеем аддрукаваць новую "накідку".

Паехалі з Леанідам Якаўлевічам на камбінат — у яго ж там — процьма знаёмых. "Вядома, паправіць можна, плёвая справа, — шчыравалі друкары. — Канечне. Толькі вось... мелаванай паперы, яно, ведаеце... наўрад ці знойдзем... Тыраж — адзінаццаць тысяч, за пазухой не пранясеш..."

Яны ж, друкары, і падказалі, у каго можна "дастаць" тую паперу. А яшчэ трэба адшукаць клішэ, надрукаваць подпісы, усё звярстаць, адціснуць....

Такім чынам колькасць "памагатых" усё расла і расла. Але ўсё патрэбнае зрабілі: новыя накідкі былі аддрукаваныя, а старыя нібы пайшлі пад нож. Вечарам амаль увесь цэх (мужчыны) збегся ў сталовую "адзначаць" нашу перамогу.

Пасля мне перадавалі, што хлопцы-друкары крыху "схімічылі" — памянялі "накідкі" толькі ў частцы тыражу, якая распаўсюджвалася ў сталіцы. А на перыферыю пайшлі бракаваныя экземпляры. Праўда гэтак ці не, не ведаю, ніякіх сігналаў у выдавецтва не паступала.

Кожны раз, калі даводзіцца браць з паліцы, на якой стаяць "Дні паэзіі", якуюсьці кніжку, я не прамінаю выпадку зняць і той памятны "Дзень паэзіі, 1966". Разгортваю кніжку на той старонцы, дзе ўклеены партрэт славутай нашай паэткі Цёткі. Я люблю гэты партрэт — з маністамі на шыі і вянком руж на галаве, — лічу яго самым лепшым партрэтам з усіх наяўных, фатаграфічных і намаляваных мастакамі, партрэтаў Цёткі, магу гадзінамі любавацца ім. І ўспамінаю яе вершы і апавяданні, а заадно — і той выпадак на паліграфкамбінаце, сваю маладосць, працу ў выдавецтве, сяброў і між іх — вясёлага мастака Леаніда Прагіна, рыбака і кветкавода, а ў душы — яшчэ і паэта. І смутак па незваротнаму агортвае душу... пухам зямля вам, пакінуўшыя нас!

## ДЗЕ ТОЙ «КЛЕР»!

У першым выданні паэмы Андрэя Александровіча "Шчаслівая дарога" больш падрабязна апісвалася жыццё "сінявокага хлопчыка Грышкі" на хутары. Туды, да дзяўчат прыходзілі з маёнтка хлопцы-кавалеры, сярод якіх вызначаўся "клер" (пісарчук). Запомніліся радкі:

*Дзе той клер,*
*дзе ён цяпер,*
*выкшталцоны кавалер?*

Помню, я яшчэ пытаўся ў мамы, што азначае слова "выкшталцоны"? І яна тлумачыла: "Такі, несялянскі, з панскімі манерамі, гжэчны..."

Нядаўна, гартаючы польска-рускі слоўнік, я натрапіў на гэтае слова: "wykształcenie" — образование, обучение, техническое образование". Карацей кажучы, "выкшталцоны" — гэта добра вывучаны, адукаваны і спрытны кавалер. У паэме ён вучыў хутарскіх дзяўчат танцаваць па-панску.

І мне ўспомнілася тая, на той час раскошна выдадзеная кніжка вялікага фармату ў цвёрдай вокладцы, з прыгожымі малюнкамі, якую я браў у бібліятэцы Стрэшынскай школы, і якая потым знікла, а я ніяк не мог зразумець, як паэт, які напісаў такую цікавую паэму, мог аказацца ворагам народа. Не разумею і цяпер.

## «ЛІТАРАТУРНАЯ НОРМА...»

Доктар філалагічных навук, выкладчык універсітэта рэцэнзуе зборнік беларускіх народных казак, крытыкуе ўкладальнікаў за "неахайную яго апрацоўку". На думку рэцэнзента "ў тэксце — безліч небеларускіх словаў, формаў, а таксама сінтаксічных канструкцыяў". І прыводзіць прыклады:

"...прызналася ў сваім зладзействе..." (трэба — у злачынстве),

"..скрозь зямлю праваліўся" (трэба — пад зямлю),

"...дзяцел клюе каня" (трэба — дзяўбе),

"...ты за мной не ўгонішся" (трэба — ты са мной не збяжышся),

"...выбраў прамую дарогу" (трэба — простую дарогу),

"...засланкай печ закрыў" (трэба — зачыніў),

"...буйную галаву" (трэба — буяную),

"...убірайся прэч!" (літаратурная норма: выбірайся!).

Вось так — літаратурная норма і баста! Вучоны быццам і не ведае, што казка — твор народа, што гэты жанр народнай творчасці ўзнік значна раней, чым вучоныя ўстанавілі тыя "нормы", што ў беларускай, як і ва ўсіх мовах свету, існуюць сінонімы...

І мне стала зразумелым, чаму ў свой час "група вучоных" так здзекліва скарачала рукапіс першага ў Беларусі "Слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў" М. К. Клышкі — дбалі пра "чысціню" беларускай мовы, заціскаючы яе ў пракрустава ложа "прынятых нормаў", не прызнаючы ў ёй нават сінонімаў. На наша шчасце, не ўсё ўдалося ім "засланкай зачыніць" — і ў абкарнаным слоўніку М. К. Клышкі засталіся словы-сінонімы: ДЗЯЎБЦІ, ДЗЮБАЦЬ, КЛЯВАЦЬ. (Стар. 144)

## ХОР ВЫКАНАЎ...

Памылкі ў газетах — і цяпер з'ява не рэдкая. А паўстагоддзя таму назад і тэхніка была яшчэ недасканалая, і абсталяванне горшае, чым цяпер, і асвятленне, і арганізацыя працы... Хоць і прызначаліся там розныя "кантрольныя рэдактары", "Свежыя вочы", ды чалавек ёсць чалавек, ён не машына...

Ну і памылкі... У наш час памылкі вырашалі, калі не ўсё, дык многае. Былі яны і строгія, і нават — страшныя. Асабліва ў тых тэкстах, дзе ўпамінаюцца правадыры, члены палітбюро, вучоныя, палкаводцы. Прозвішчы так і глядзі: ёсць такія, дзе дастаткова змяніць адну літару... Той жа Сталін: выцесніць літару "т" нейкая там літарка "р" ці "ц". Не заўважыш — і канец, працаваць у рэдакцыі больш не будзеш...

Гэта было вядома ўсім журналістам, і ўсе журналісты, калі дзяжураць па нумары, глядзяць пільна, па некалькі разоў перачытваюць прозвішчы вядомых і праслаўленых. Таму ў прозвішчах і памылак менш. Памылка яна таксама хітрая, калі бачыць, што прозвішча пад кантролем, яна шукае іншую шчылінку, больш за ўсё — у суседнім слове, якое пішацца не пад такім строгім кантролем. Скажам, у такім сказе: "Калгасны хор выканаў кантату пра Сталіна". У першую чаргу пасля зверкі прозвішча правадыра, рэдактар задумваецца: ці браць у двукоссе назву кантаты, з якой літары — вялікай ці маленькай — пісаць слова "кантата". А на слова "выканаў" ужо нібыта і не варта звяртаць увагі. І добры чалавек, сумленны працаўнік якраз і пагарэў на гэтым слове: тут замест літаркі "н" улезла літарка "к". Выпадковасць? Вядома. Але на пасяджэнні бюро ацанілі інакш:

— Чаму, калі выконваюць танец "Яблычка" ці "польку", дык усе літары на месцы. А толькі заігралі "Кантату пра Сталіна" — усё хадуном захадзіла. Чаму?

І рэдактар пайшоў працаваць фізруком у школу. А мог і "загрымець".

## МАШЭРАЎ УСМІХНУЎСЯ...

Быў час, калі слава сакратара Докшыцкага райкама партыі Вулляны Крышталевіч грымела на ўсю рэспубліку. Праславілася яна тым, што арганізавала ачыстку палёў ад камення, а груды тых камянёў прадала кудысьці як будаўнічы матэрыял. А на чыстых палях калгаснікі змаглі вырасціць высокія ўраджаі. Вулляне Крышталевіч прысвоілі ганаровае званне Героя Сацыялістычнай працы.

Пра яе поспехі паэт Міхась Калачынскі напісаў кнігу вершаў "Докшыцкі каравай". Спачатку вершы свае паэт вырашыў надрукаваць у часопісе "Полымя". А там аддзел паэзіі вёў непадкупны паэт Анатоль Вялюгін — рэдактар прыдзірлівы, які слабога не прапускаў. Ён чытаў машынапіс, лепшыя вершы адкідаў направа, горшыя — налева. Вось ён прачытаў чарговую старонку і моўчкі шпурнуў налева.

— І гэты не бярэш? — здзівіўся Міхась Іванавіч, хапаючы Вялюгіна за руку.

— Мура!.. — катэгарычна буркнуў той і дадаў: — Не пазнаць цябе, Міхась, зусім ты згубіў адчуванне слова.

— А Машэраву якраз гэты верш і спадабаўся, — пераможна хіхікнуў Калачынскі і горда выпучыў грудзі.

— Ты ўжо і ў ЦК збегаў? — здзівіўся Вялюгін. — Каб хоць вершы добрыя былі... Пасаромеўся б час аднімаць у Машэрава.

— Нікуды я не бегаў...

— Дык жа кажаш: спадабаўся Машэраву.

— Гэта ж я калі ў Докшыцах у час семінару выступаў у клубе і там прысутнічаў Машэраў, дык ён якраз на гэтым месцы ўсміхнуўся...

— Хо-хо-хо! — схапіўся за жывот Вялюгін. — Усміхнуўся... А ты ведаеш, чаго ён усміхнуўся? Мо якраз падумаў: салідны чалавек, а такую дрэнь піша. Хо-хо-хо! — густы вялюгінскі бас каціўся па ўсім доме на вуліцы Захарава. — Усміхнуўся! Хо-хо-хо!

## ЗА ЧЫЙ КОШТ!

Пасля смерці Сталіна яго забальзаміраванае цела было пакладзена ў маўзалей побач з целам Леніна. А праз тры гады на ХХ з'ездзе партыі М. Хрушчоў выкрыў культ асобы Сталіна і за адну ноч цела "правадыра ўсіх народаў свету" было перанесена ў магілу на Краснай плошчы, а на мармуровай абліцоўцы маўзалея зноў людзі ўбачылі адно слова — ЛЕНИН.

І ў выдавецтвах пачалі "чыстку" рукапісаў: выкрэслівалася не толькі слова "Сталін", але і ўсе творы, яму прысвечаныя. Адзін з такіх рукапісаў знаходзіўся ўжо у вытворчасці — набраны тэкст і звярстаны макет. Гэта быў зборнік аднаго з вядомых паэтаў, значную частку кнігі займала вялізная паэма, у якой праслаўляўся "Сцяганосец міру". Кнігу рэдагаваў вопытны рэдактар — Леў Салавей. Яго выклікаў да сябе ў кабінет дырэктар выдавецтва З. Матузаў і пачаў ушчуваць:

— Дык як гэта вы, вопытны рэдактар, прамаргалі, га?..

— Нічога я не прамаргаў! — усхапіўся рэдактар. — Яшчэ не позна, здымем паэму, перавярстаем кніжку.

— Перавярстаем, — перадражніў яго дырэктар і ва ўпор уставіўся пабялелымі вачамі. — А за чый кошт вы будзеце перавёрстваць, скажыце, калі ласка?

— А за той жа кошт, за які на маўзалеі памянялі надпіс. За адну ноч памянялі. А там жа — мармуровыя пліты. Гэта вам не паперачка...

Дырэктар не знайшоўся, што адказаць. Кніжку перавярсталі і выдалі.

## ПАД УПЛЫВАМ ГРЫГА

Падчас службы на Балтыцы пад уплывам нарвежскага паэта Нурдаля Грыга пачаў я пісаць верш:

*На сушы — раздолле: піўнушкі,*
*тавэрны,*
*Пі і танцуй, да світанку гуляй.*
*Смешна шукаць непачатых і верных*
*У гурце партовых шалаў.*
*Мы ж на звальненні і іншых не маем —*
*Тут дзешавей і прасцей,*
*"Любымі сэрцу" сп'яна называем,*
*Цягнем хутчэй у пасцель...*

Такіх вершаў у тыя часы не друкавалі, бо ўсе ведалі, які прыгожы і светлы "маральны воблік савецкага марака". Таму і

верша я не скончыў... А цяпер вось адшукаў у старых паперах яго пачатак. Цяпер я, ведама, ужо больш ведаю і пра Грыга, і пра жанчын, змог бы дапісаць гэты верш. Але рабіць гэтага не збіраюся, — у літаратуры рэанімацыя не заўсёды карысная.

## «ПРАВА НА КАВАЛАЧАК САЛДАЦКАЙ СЛАВЫ...»

Запомніліся радкі, прачытаныя ў пасляваенным нумары часопіса "Полымя":

*Я хачу, я ж маю права*
*На кавалачак салдацкай славы,*
*Што на родным полі здабывалі.*
.......................................................
*Гэта слава не сцямнее ў лецях;*
*Ёй зайздросціць будуць нашы дзеці.*
*Я шчаслівы тым, што маю права*
*На кавалачак салдацкай славы.*

Гэты верш напісаў Раман Сабаленка, як сведчыць подпіс, у студзені 1946 года на Палессі. Літаратурную дзейнасць сваю Раман Сабаленка пачынаў вершамі, да вайны нават апублікаваў паэму "Брагінь" — легенду аб паходжанні назвы мястэчка Брагін. Выдаў два паэтычныя зборнікі: "З родных крыніц" (1950) і "Мая эстафета" (1954).

Пазнаёміўся я з Раманам Карпавічам, калі ён з Баранавіч пераехаў у Мінск, працаваў у рэдакцыі часопіса "Маладосць", якая размяшчалася ў будынку ЦК камсамола.

Гэта быў дабрэйшай душы чалавек, дасціпны і вясёлы. Тады ён ужо развітваўся з паэзіяй, пачаў пісаць прозу. На ўсё жыццё запомнілася гумарэска пра тое, як адна жанчына разжылася парашком для атручвання клапоў і тараканаў, заварыла з ім цеста, пастаўіла астываць і пайшла да суседкі. А ў гэты час вярнуўся з працы муж з сябрамі і паўлітэркай, выпіўшы, не знайшлі закусі і паелі тую атруту...

Журналісцкія сцежкі прывялі мяне аднойчы і на радзіму Рамана Карпавіча — у вёску Сабалі каля Брагіна. Там я сустрэў шмат цікавых людзей — землякоў пісьменніка, яго родзічаў.

Многа кніг пакінуў нам Раман Сабаленка, сярод якіх мне хочацца адзначыць "Колерамі вясёлкі" — зборнік нарысаў аб дзеячах беларускай літаратуры і культуры.

## «СТАНУ ПЕСНЯЙ, ЧЫСТАЙ, ЯК СЛЯЗА...»

Я рэдагаваў яго першую кніжку — зборнік вершаў "Зямля — магніт" (1968). Мікола Федзюковіч вучыўся тады ў Літаратурным інстытуце імя А. М. Горкага (Масква), які я скончыў сем гадоў перад тым. Аўдыторыі якога яшчэ стаялі ўвачу. Мне было цікава ведаць, як жывуць і працуюць знаёмыя выкладчыкі, якія адбыліся змены ў працэсе выкладання і творчай вучобы, якія таленавітыя студэнты прыйшлі на змену, як захоўваюцца і развіваюцца традыцыі гэтай арыгінальнай навучальнай установы.

У вершах маладога паэта адчуваліся ўплывы некаторых маскоўскіх паэтаў, сустракаліся наіўныя перайманні стылю і формы. Але галоўнае — Федзюковіч не гнаўся за моднымі тады прыблізнымі рыфмамі, хоць і вёў пошукі ў засваенні вольнага верша ("Навальніца", "Увекавеч, фатограф...", "Пароя я чую...", "О, як вы надакучылі..."). Ён славіў прыгажосць роднай зямлі, працавітага чалавека, чысціню кахання, марыў стаць "песняй чыстай, як сляза". Шкада, што здзейсніць гэтую мару яму ўдалося толькі часткова — паэт не дажыў да сталага веку, пакінуў нам толькі некалькі кніг сваіх вершаў, якія сведчаць аб значных яго магчымасцях.

На вокладцы першага зборніка "Зямля — магніт" змешчаны партрэт Міколы Федзюковіча, на мой погляд, самы дакладны. Вось такім дапытлівым весялуном ён мне і запомніўся.

## СПЕЎ АБ ДОЛІ СІРОЧАЙ...

На старонцы даведніка "Беларускія пісьменнікі", дзе змешчаны фотапартрэт Івана Леткі, я напісаў жартоўнае двухрадкоўе:

*Я помню Летку не такога,*
*я помню Летку-каваля.*

Сапраўды, у 1967 годзе, калі мы з ім рыхтавалі да друку яго першы зборнік вершаў "Тры крокі ад сонца", Іван Антонавіч быў значна маладзейшы, якім ён выглядае на здымку ў даведніку — і без вусоў, і не такі спраўны. Тады яму было толькі трыццаць два гады. Прыгожы, спартыўнага складу вясёлы дзяцюк, ён прыехаў з Масквы, дзе працаваў кавалём на заводзе імя Ліхачова і толькі што завочна скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага.

Спыніўся Летка не ў гатэлі, а на кватэры паэта Анатоля Вялюгіна, які быў грамадскім рэдактарам першай кніжкі паэта і аўтарам уступнага слова. Пасля Вялюгіна маё рэдагаванне зводзілася да тэхнічнага афармлення рукапісу.

У Маскву ўраджэнца Гродзеншчыны прывяла не рамантыка — няшчасце: ён рана страціў бацькоў і паехаў у сталіцу да родзічаў, якія і прытулілі яго, дапамаглі ўладкавацца на працу. У вершах сваіх Іван Антонавіч часта ўспамінае дзяцінства, родную вёску, бацькоў. Жывучы ў шумлівым горадзе, ён не забыў роднай мовы, імкнуўся пісаць проста і вобразна, так, як размаўлялі яго земляки-аднавяскоўцы.

Летка рэдка прыязджаў у Мінск. Выдаў яшчэ зборнікі вершаў "Тры верасні" (1970), "Грамы на зімоўцы" (1974).

Хоць і скончыў Літаратурны інстытут, прафесійным пісьменнікам стаць не змог мог: і фізічная праца вымотвала сілы, і не ўжываўся з норавамі літаратурнай эліты, не меў цягі да "лёгкага хлеба" і гучнай славы. Запаветнай яго марай было — стаць патомным рабочым. Ім ён і стаў.

## БІГОСАЎСКІ ПАРОМШЧЫК

Спачатку мы пазнаёміліся завочна: Мікола Аўрамчык папрасіў мяне пракансультаваць маладога паэта, не называючы яго прозвішча, як пішуцца вянкі санетаў. Мой адказ аўтару вянка санетаў "Поле" "Паважанаму Пятру С..." і быў надрукаваны ў часопісе "Маладосць" (1968 г., № 6). А праз некалькі гадоў пазнаёміўся я і з самім Пятром Сушко. Ім аказаўся прыемны малады чалавек, супрацоўнік рэдакцыі газеты "Страж Октября". Ён пісаў дасціпныя гумарэскі, байкі, фельетоны і друкаваў іх у часопісе "Вожык", газетах "Звязда", "Чырвоная змена" і інш. Пад сваім прозвішчам друкаваў лірычныя вершы пра родны азёрны край, каханне. Гумар ягоны быў не злосны, лагодны, такі ж, як і ён сам.

Пятро не любіў, як кажуць, "вытыркацца", жыў ціха, лагодна. Запомнілася яго лірычная мініяцюра:

*Ноч ліпнёвая*
*зноў мроіцца мне тая*
*на мурожным беразе Дзвіны,*
*чорнай хвалі грыва залатая*
*лёгкія пагойдае чаўны.*
*Галасок знаёмай перасмешкі*
*над вадой*
*у маладой лазе,*
*вогнішча начное каля сцежкі*
*і лускі пузыр'е на лязе.*

Родам Пятро з Міёрскага раёна, яго вёска Сушкі недзе непадалёк ад вядомага на Дзвіне Бігосава, і Пятро ў вершах неаднойчы абыграў гэтую паэтычную назву, у яго нават ёсць зборнік "Бігосаўскі паром".

Дапрацаваў ён і той, раскрытыкаваны мной вянок санетаў "Поле".

Мы не сябравалі, былі проста добрымі знаёмымі. Я любіў яго за сціпласць і працавітасць, радаваўся яго творчым поспехам, новым кнігам, якія ён падпісваў мне. І было дужа горка даведацца, што Пятра Паўлавіча ўжо няма ў жывых.





# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы а б а в я з а н ы памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не ствараць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: м ы — б е л а р у с ы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim@tut.by.**




Тонкая гэта рэч — крытычны разбор паэзіі! Без эмоцый — немагчыма, без суб'ектыўнага падыходу — цяжка... А ўжо колькі даводзіцца пераэжыць аўтару-ахвяры — ведае толькі ён сам, бо вершы — працяг яго самога, і паспрабуй абстрагавацца, калі кожная заўвага "чапляе" за жывое.

Сябры суполкі "Літаратурны квартал" спрабуюць знайсці ў гэтай справе "залатую сярэдзіну", што ўдаецца не заўсёды. На сустрэчы кварталаўцаў, якая адбылася 10 красавіка абмяркоўвалася нізка вершаў Усевалада Гарачкі. З грунтоўнымі разглядамі выступілі Т. Барысюк, В. Трэнас, С. Патаранскі. Бралі слова і іншыя прысутныя — І. Клепікаў, А. Спрынчан, Н. Капа, Р. Малахоўскі, Я. Раманіца, М. Кандратаў, Т. Будовіч, Д. Лосева, В. Гарністава, А. Бязлепкіна, Н. Кучмель, П. Астравух, а таксама тыя, хто прыйшоў упершыню, студэнты Інстытута кіравання — Ю. Пыск, А. Камоска, Т. Арцішэўская, І. Кузьменка.

Усеваладу давялося пачуць шмат розных думак пра сваю творчасць, і добразычлівых, і не надта. Некаторыя заўвагі падаліся большасці занадта "літаратуразнаўчымі", фармальнымі. Але гучалі і развагі слушныя, канцэптуальныя. Агульнае меркаванне было такім: Усевалад Гарачка — цікавы паэт, са сваім адметным голасам, яго вершам уласцівая філасофская глыбіня, адначасова аўтар здольны да слоўнай гульні.

Усеваладу Гарачку пакуль што не ўдалося выдаць ніводнага паэтычнага зборніка, таму выйсце ў свет яго першай кнігі прыцягнула б увагу, сталася б знакавым для самога аўтара, чаго яму ўсе і пажадалі.

Напрыканцы сустрэчы ўсе чыталі свае новыя вершы. Наступнае пасяджэнне 17 красавіка, будзе цалкам прысвечана чытанню вершаў і размовам на літаратурныя тэмы. А 24 красавіка кварталаўцы збяруцца на абмеркаванне на гэты раз не паэзіі, а крытыкі. "Гераіняй" сустрэчы стане крытык Н. Дзянісава, гаворка пойдзе пра набалелыя праблемы ў гэтай галіне літаратуры.

Нагадваем — суполка "Літаратурны квартал" збіраецца штосераду а 18 гадзіне ў памяшканні рэдакцыі "ЛіМа".

# ДУХОЎНАСЦЬ І ПАЭЗІЯ

Прэзентацыя кнігі "Слово и дух: Антология русской духовной поэзии X—XX вв." (Мн.: Свята-Елісавецінскі манастыр, 2003), складзенай прафесарам БДУ, пісьменнікам Іванам Чаротам, прайшла 14 красавіка ў Мінскім выставачным цэнтры "Белэкспа". На сустрэчы з чытачамі І. Чарота пазнаёміў прысутных са зместам "Анталогіі", расказаў пра свае творчыя задумы і планы. Выступілі паэты, вершы якіх уключаны ў анталогію: Б. Спрынчан і В. Спрынчан. Кніга мае добры тыраж — 5100 экз., багата і з густам аформлена. Мяркуецца, што яна зойме належнае месца ў хатніх бібліятэках і будзе дастойным падарункам. Для выкладчыкаў літаратуры гэтае выданне стане грунтоўным дапаможнікам, у якім сабрана ўсё вартае ўвагі за адносна доўгі прамежак часу. У анталогію ўключаны: руская паэзія "сярэбранага веку", тэксты з "богагласнікаў", вершы рускіх паэтаў канца XX ст. Гэтае выданне мае падрабязны каментарый, у канцы кнігі змешчана бібліяграфія "Руская славеснасць і хрысціянства" (усё падрыхтавана І. Чаротам). Прафесар І. Чарота вядомы як укладальнік яшчэ дзвюх анталогій — беларускай хрысціянскай паэзіі "Насустрач духу", беларускай хрысціянскай прозы. Новая анталогія чакала свайго выхаду ў свет пяць гадоў — і вось, нарэшце, гэтае свята духоўнасці адбылося.

С. Я.

# «ВОСЕНЬСКАЕ ТАНГА» АД ЛЕАНАРДЫ ЮРГІЛЕВІЧ

**У Слонімскай друкарні выйшла з друку кніга прозы журналісткі з Дзятлава Леанарды Юргілевіч.**

**Акрамя розных інфармацый і артыкулаў, журналістка не першы год ужо спрабуе свае сілы ў чыста пісьменніцкай справе. Яна піша гумарэскі, фельетоны і апавяданні. Тыя, хто рэгулярна чытае часопіс "Вожык" і "Газету Слонімскую", відаць, запомнілі арыгінальныя гумарыстычныя творы Леанарды Юргілевіч, якія на працягу многіх гадоў друкуюцца на старонках гэтых выданняў. А ў 2000 годзе ў серыі "Бібліятэка" Вожыка" пабачыла свет яе першая кніжачка гумарэсак "Грэшная душа". Некалькі разоў наша зямлячка станавілася лаўрэатам часопіса "Вожык". Была нават удзельніцай Усебеларускага фестывалю сатыры і гумару "Аўцюкі-2000", дзе атрымала дыплом "За развіццё традыцый беларускага гумару".**

**Аб'ектам смеху Леанарды Юргілевіч былі і застаюцца махляры, падхалімы, п'яніцы і прайдзісветы. Аўтарка валодае простаю, але сакавітаю моваю, якою яна прыгожа апісвае сваіх герояў, дае ім характарыстыкі, стварае дыялогі.**

**Акрамя гумарэсак, з-пад пяра празаіка з Дзятлава выходзяць і сур'ёзныя**




**творы — апавяданні, сюжэты якіх узяты з жыцця тых людзей, што жывуць побач. Менавіта землякі і з'яўляюцца галоўнымі героямі новай кнігі "Восеньскае танга".**

**У тужлівых і простых па сюжэце апавяданнях Леанарда Юргілевіч распавядае пра нялёгкі чалавечы лёс. У многіх з іх бачыцца сама аўтарка з яе перажываннямі і радасцямі. Яна, як ранні Кузьма Чорны, умее назіраць за працэсам эвалюцыі чалавечай свядомасці. Што складае ягоную сутнасць? Дзе палягае мера вартасцей чалавека? Што трэба лічыць асновай, крытэрыем пры ацэнцы яго годнасці? Такой мерай вартасці чалавека, такой асновай, крытэрыем пры ацэнцы яго годнасці, паводле Леанарды Юргілевіч, з'яўляюцца адносіны чалавека найперш да сябе, да чужых радасці і болю, праблем і звычаяў. Аўтарка добра адчувае псіхалогію сваіх герояў, яна разам з імі думае і разважае. Ды і самой аўтарцы ў жыцці давялося перажыць нямала выпрабаванняў.**

**Нарадзілася Леанарда Юргілевіч на Валожыншчыне. Рана засталася сіратою, а сірочае жыццё ніколі лёгкім не бывае. Спачатку вучылася ў Іўеўскай, а пасля ў Свіслацкай школах-інтэрнатах. Шмат давялося сустрэць на сваім жыццёвым шляху добрых і нядобных людзей. Гэтыя людзі і з'яўляюцца прататыпамі герояў яе апавяданняў. Можа, не ўсе жыццёвыя гісторыі Леанарды Юргілевіч моцныя ў мастацкіх адносінах, але ёсць і хрэстаматыйныя. Маюцца на ўвазе апавяданні "Блакітная пасцілка", "Восеньскае танга", "Чаму ты, мама, не паміраеш?" і іншыя. Дарэчы, у 2002 годзе Леанарда Юргілевіч была ўдастоена спецыяльнага дыплома і прэміі амерыканскай кампаніі "Філіп Морыс" за перамогу для журналістаў, якія пішуць на сацыяльную тэматыку. Менавіта гэтая тэма скразною лініяй праходзіць праз усе жыццёвыя гісторыі новай кнігі "Восеньскае танга".**

**Сяргей ЧЫГРЫН**



Уладзімір Гніламёдаў займаецца вывучэннем беларускай літаратуры ў агульнай складанасці ўжо чатыры дзесяцігоддзі.

Новая кніга даследчыка мае сціплы падзагаловак "Нарыс пра беларускую паэзію". Па сутнасці ж У. Гніламёдаў напісаў кароткую гісторыю нашай паэзіі, пачынаючы ад яе старажытных вытокаў. Аўтар згадвае імёны Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны і Сымона Будная, Сімяона Полацкага і паэтаў лацiністаў (Ян Вісліцкі, Мікола Гусоўскі, Андрэй Рымша, Лявон Мамоніч, Ян Казімір Пашкевіч). Праўда, гаворка пра іх ідзе беглая, адно ў плане вызначэння месца ў літаратурным працэсе. Таму наша паэтычная даўніна акрэсліваецца ў кнізе толькі эскізна, асобнымі штрыхамі.

Пры характарыстыцы літаратуры XIX стагоддзя размова вядзецца пра постаці Я. Баршчэўскага і Я. Чачота, Ф. Савіча і П. Багрыма, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча і В. Вярыгі-Дарэўскага, пра паэмы "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе". Паэтамі "вострa выяўленай сацыяльнай тэматыкі" называюцца Я. Лучына, А. Гурыновіч, А. Абуховіч і К. Лейка — "сучаснікі Ф. Багушэвіча і прадаўжальнікі яго ідэйных пошукаў".

Гэты вывад канкрэтызуецца сцвярджэннем, што паэт у вершы "Ворагам Беларушчыны" "ўзнавіў і развіў патрыятычныя традыцыі палемічнай беларускай літаратуры XVI—XVII стагоддзяў Афанасія Філіповіча, Мялеція Сматрыцкага, Стафана Зізанія і іншых пісьменнікаў, якія стаялі на варце нацыянальных інтарэсаў". Істотным з'яўляецца і ўдакладненне, што апора на біблейскія жанравыя архетыпы, прыкметная ў шэрагу твораў, стымулявала "неўтаймоўна-бурлівы стан, прамоўніцкі пафас і тэмперамент" паэта, але не перашкаджала яму перадаваць уласнае, "асабовае адчуванне чалавечага быцця".

Водгалас біблейскіх матываў адшукаў даследчык і ў творчасці Коласа, у прыватнасці, у паэме "Новая зямля", сама назва якой цяпер звязваецца з новазапаветнай кнігай Біблii "Адкравенне Іаана Багаслова" (пра наяўнасць такой сувязі нядаўна пісаў таксама У. Конан у артыкуле "Хрысціянскія вытокі эстэтычнай праграмы "Узвышша").

Дзякуй Богу, тыя часы мінуліся. І цяпер можна без аглядкі на адыёзныя забароны гаварыць не толькі пра рэлігійныя матывы, але і пра мадэрнісцкія тэндэнцыі ў нашай літаратуры (у кнізе ёсць цэлы раздзел "Паэзія і ма-

Як і пры даследаванні паэзіі XIX стагоддзя, крытык паказвае пераважна найбольш істотныя дасягненні паэтаў XX стагоддзя, але, прынамсі зрэдку, гаворыць і пра тое, што лічыць слабым ці спрэчным у самых прызнаных майстроў. Так, разважаючы пра А. Разанава, вялікая роля якога ў абнаўленні беларускай паэзіі сёння ўжо відавочная, ён зазначае, што гэтаму паэту "ў пэўнай ступені пагражае некаторая псіхалагічная абстрактнасць", "у яго творах нямала і "цёмных" мясцін, не заўсёды даступных для разумення", "кніжная культура, здараецца, бярэ верх над жывым пачуццём, аб якім застаецца толькі здагадвацца".

Заўзятыя прыхільнікі разанаўскага таленту наўрад ці пагодзяцца з гэтымі няхай сабе і даволі асцярожнымі закідамі. Але наяўнасць такіх закідаў сведчыць пра імкненне крытыка пазбягаць гучнай рыторыкі і безагляднага славаслоўя, не падмяняць навуковае даследаванне захопленымі панегірыкамі.

Думаецца, прынцыпова важным з'яўляецца для Гніламёдава разуменне, што ў бурлівым, надзвычай багатым на грамадскія катаклізмы XX стагоддзя літаратура, паэзія ў асаблівасці, сутыкнулася са шматлікімі цяжкасцямі, якія перашкаджалі ёй развівацца нязмушана і свабод-

# КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ ПАЭЗІІ

## Роздум над кнігай Уладзіміра Гніламёдава "Ад даўніны да сучаснасці"

По справядлівасці вельмі высока ацэньваецца творчасць самога Францішка Багушэвіча, ягоны ўклад у беларускую літаратуру той пары, у фармаванне нашага нацыянальнага менталітэту. "Яго вершы, — энергічна сцвярджае даследчык, — пісаліся бядой, горам. Яны прасякнуты глыбокім драматызмам: страсная, бязлітасная думка паэта біла па коснасці, адсталасці беларускага мужыка, яго духоўнай заняволенасці. Паэт востра крытыкаваў сацыяльнае зло, якое перашкаджала гістарычнаму станаўленню нацыі. Ф. Багушэвіч — гэта цэлы этап фарміравання ідэі беларускасці, якая развівалася ў яго творчасці на падставе пазітывісцкай філасофіі".

Згадка пра філасофскія падваліны творчасці паэта для У. Гніламёдава не прыватны момант ці выпадковая заўвага. Ён на працягу ўсёй кнігі імкнецца да тэарэтычнай заглыбленасці сваіх разважанняў і высноў. І гэта істотна павышае важкасць даследавання, яго навуковую значнасць.

Увогуле добра выверaная аб'ектыўнасць навукоўца прымушае Гніламёдава на поўны голас гаварыць не толькі пра здабыткі, але і пра недахопы нашай літаратуры. Адзначыўшы, што лепшыя паэты XIX стагоддзя "прароча ўгадалі развіццё беларускага верша ад сілабікі да сілабатонікі і тонікі", што іх пошукі ў гэтым напрамку працягваліся ў наступным стагоддзі Купалам і Коласам, Цёткай і Багдановічам, Бядулем і Гаруном, даследчык вызначае галоўную слабасць паэзіі XIX стагоддзя, яе надастатковую выяўленасць як уласна лірыкі: "Лірыка XIX стагоддзя яшчэ не стала асабова-інтымным выяўленнем паэта, які часцей за ўсё абстрагаваўся ад уласнага "я", пакідаючы яго ўбаку, па-за тэкстам."

Напісана кніга ўмелай і вопытнай рукой. Важкасць абагульненняў у ёй спалучаецца з тонкасцю аналізу канкрэтных твораў. І адно, і другое зроблена, як правіла, з добрым веданнем справы, з улікам гістарычных рэалій той пары, калі пісаліся творы, і тых даляглядаў, якія высвечвае сучаснасць, наша цяперашняе разуменне жыцця і літаратуры.

Па-сучаснаму гаворыць У. Гніламёдаў, напрыклад, пра біблейскія матывы ў творчасці Купалы, якія ў савецкія часы знарок абміналіся літаратуразнаўствам, вымушаным трымацца афіцыйнай атэістычнай пазіцыі. Гніламёдаў жа заўважыў сувязь з біблейскай паэтыкай і ў такіх купалаўскіх творах, дзе яна не кідаецца ў вочы, скажам, у вершах "А хто там ідзе?", "Ворагам Беларушчыны", "Я не для вас..." Аналізуючы гэтыя творы, крытык робіць выснову:"Як паэт-прарок, вяшчун Адраджэння ён (Купала) свядома і інтуітыўна адчуваў патрэбу абапірацца не толькі на навукова-асветніцкія ідэі, але і на ўвесь вопыт чалавецтва, у тым ліку і на рэлігійны. Прарочы дар Купалы якраз і выявіўся ў тым, што праблемам беларускай гісторыі ён надаваў абагульнены характар, паказваючы іх як праблемы агульначалавечыя. Біблія давала яму магчымасць глабальнага погляду на гісторыю свайго народа".

дэрнізм"), і пра філасофію Ф. Ніцшэ, пра яго адмаўленне маралі і культ "звышчалавека", у спрэчцы з якімі, на думку даследчыка, ствaралася купалаўская паэма "Магіла льва". Разважаючы пра гэты твор, крытык, думаецца, слушна сцвярджае, што праз лёс Машэкі, калі той ужо стаў лютым разбойнікам, паэт якраз і адмаўляў плённасць ніцшэанскай ідэі "звышчалавека", якому нібыта дазволена ўсё, любое злачынства. У Купалы ж зусім невыпадкова злачынствы Машэкі-разбойніка ўрэшце караюцца самай вялікай карай — яго, як вядома, забівае Наталька, і яе ўчынак, паўтару ўслед за даследчыкам, "успрымаецца як акт чалавечай справядлівасці".

Сёння стала магчымым без ідэалагічнай прадузятасці пісаць і пра тую ж Наталлю Арсенневу, прызнанне выдатнага таленту якой у нас ішло (ды яшчэ ідзе і цяпер), мякка кажучы, з вялікім скрыпам. А Гніламёдаў у сваёй кнізе даў змястоўны мініпартрэт Арсенневай, у якім вылучаны тонкі лірызм яе паэзіі, глыбіня самавыяўлення асобы, высокая духоўнасць, прасякнутасць зноў жа хрысціянскімі каштоўнасцямі, уменне паэтызаваць прыроду ў яе адзінстве з чалавекам.

Шырокае выкарыстанне мініпартрэтаў можна лічыць характэрнай прыкметай і вызначальнай структурнай асаблівасцю гніламёдаўскай кнігі. Звязана гэта з імкненнем крытыка паказаць адметнасць, непаўторную своеасаблівасць многіх паэтаў, багацце іх індывідуальных стыляў. Каб у гэтым мностве не збіцца на хаатычнае нагрувашчванне паэтычных імёнаў, даследчык вылучае вызначальныя стылёвыя плыні ў нашай паэзіі і пераважна другой паловы XX стагоддзя. Іх у яго набралася роўна шэсць: лірыка-апавядальная, рамантычная, публіцыстычная, філасофска-аналітычная, мастацка-сінкрэтычная і універсальна-інтэлектуальная.

Падзел, як і ўсе класіфікацыі такога кшталту, даволі ўмоўны, прынамсі суб'ектыўны, бо рэдка які з нашых значных, арыгінальных творцаў цалкам укладваецца ў адведзенае яму стылёва-выяўленчае рэчышча. Крытык пры канкрэтным аналізе і сам у шэрагу выпадкаў агаворвае гэта. Пры ўсіх такіх агаворках яму ўдалося ў межах сваёй класіфікацыі даць па неабходнасці сціслую, але сутнасна змястоўную характарыстыку некаторых граняў творчага вобліку А. Куляшова і М. Танка, П. Панчанкі і А. Пысіна, У. Караткевіча і Р. Барадуліна, Н. Гілевіча і Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага і П. Макаля, В. Зуёнка і М. Арочкі, Я. Янішчыц і А. Разанава. І не толькі іх.

Пісалася кніга У. Гніламёдава ў 1997—1998 гадах. Але даследаванне паэзіі тут завяршаецца ў асноўным 80-і гадамі. І ўжо ў пачатак 90-х зроблены толькі рэдкія выхады. Вось чаму ў кнізе зусім не прадстаўлены не толькі цяперашнія самыя маладыя паэты, але абыдзена і нямала тых вершатворцаў, якія і па словах даследчыка ўжо "сталі сталымі", занялі сваё трывалае месца ў літаратурным працэсе.

на. Асэнсаванне гэтых цяжкасцей вызначае адну з галоўных, магістральных ліній даследавання.

Імкненне таталітарных рэжымаў падпарадкаваць сабе літаратуру прынесла ёй самыя вялікія страты, сярод якіх і фізічнае знішчэнне або працяглае зняволенне пісьменнікаў, і жорсткая ідэалагічная рэгламентацыя творчасці тых, хто заставаўся сярод жывых і не трапляў за краты. Трагедыя такіх фармальна свабодных вязняў ідэалагічнага ГУЛАГа, афіцыйна як быццам і высока ўшанаваных, але вымушаных пісаць пад ціскам бальшавіцкіх артадоксаў, уражліва паказана на прыкладзе купалаўскай творчасці 30-х гадоў. Праўда, тут Гніламёдаў у асноўным паўтарае ўжо сказанае ім у кнізе 1995 года "Янка Купала", якая мае падзагаловак "Новы погляд" і сапраўды па-новаму асвятліла трагічныя павароты ў лёсе нашага нацыянальнага прарока, фактычна распінанага бальшавікамі за ягоную глыбінную народнасць і вернасць адраджэнскім ідэям.

Вялікай бяды ў такіх самапаўторах, прыкметных і ў іншых мясцінах цяперашняй кнігі, я не бачу, бо ранейшыя сцвярджэнні ў новым кантэксце набываюць нейкія дадатковыя адценні. Але даводзіцца пашкадаваць, што крытык цяпер крыху прыгладжвае сваю ацэнку купалаўскіх страт у цянётах бальшавіцкай цэнзуры, апусціўшы самыя горка-балючыя, але слушныя выказванні на гэты конт, што былі ў кнізе "Янка Купала".

Налёт прыгладжанасці, калі недастаткова ўлічваецца ўся складанасць дачыненняў мастака з таталітарнай сістэмай улады, бачыцца мне і ў такім бадзёрым, але залішне катэгарычным выказванні: "Творчасць П. Панчанкі — чулая, злабадзённая, неаддзельная ад свайго часу. Пры гэтым ён ніколі (падкрэслена мною. — **Д. Б.**) не паступаўся ні мастацкасцю, ні талентам. Наадварот, сувязь з часам узмацняла яго талент і эстэтычныя здабыткі паэзіі. Маральнае ўспрыманне рэчаіснасці, вастрыня сацыяльнага погляду актывізавалі мастацкае мысленне".

Панчанка, канечне ж, паэт выдатны. І многае ў сваёй творчасці яму сапраўды ўдавалася зрабіць на самым высокім узроўні мастацкай дасканаласці. Але залішне шчыльная сувязь з тым складаным часам, калі ў нас панавала бальшавіцкая таталітарная сістэма, — такая сувязь прымушала ісці і на ўступкі той сістэме, нярэдка адкрыта падыгрываць ёй і таму нямала нашкодзіла і няўрымсліва-яршыстаму ў сутнасці сваёй паэтычнай натуры Пімену Панчанку, хоць ён бунтаваў супраць вельмі ўжо адыёзных праяў савецкага таталітарызму намнога больш часта, чым іншыя нашы ангажаваныя паэты, якія, як і Панчанка, шчыра лічылі, што праслаўленне бальшавіцкай улады можна сумясціць з непаказным, не толькі на словах абвешчаным, гуманізмам, з абаронай маральных каштоўнасцей народа. Шмат мужнасці патрабавалася Панчанку, каб зноў і зноў адважвацца на вострыя сатырычныя творы тыпу яго славутых "Прыстасаванцаў", пісаць натхнёныя вершы пра родную мо-

ву з пратэстам супраць яе ўсё больш моцнага зацiску ўладарнымi бальшавiкамi.

Усё гэта робiць П. Панчанку гонар не толькi як паэту, але i як грамадзянiну, заклапочанаму будучыняй Беларусi. Але ж былi i ў Панчанкi прахладныя, напiсаныя паспешлiва творы, у якiх пахвальнай крытыкам вастрынi сацыяльнага погляду не знойдзеш i пад мiкраскопам.

Толькi ў ягонай кнiзе "Вершы i паэмы", выдадзенай у 1952 годзе, калi павярхоўная злабадзённасць усё яшчэ асаблiва моцна душыла паэзiю, я налiчыў больш за два дзесяткi вершаваных практыкаванняў на тэму сталiнскага "гуманiзму", у якiх кан'юнктуршчына ў духу таго часу пануе. Яна хутчэй за ўсё была вымушанай, бо праслаўленне крывавага тырана i вiтанне заведзеных iм парадкаў, ад якiх стагнала краiна, адбывалiся на далёкiм ад сапраўднай мастацкасцi ўзроўнi. Нельга ж лiчыць таленавiтай паэзiяй, скажам, вось гэтыя радкi: "Ноччу i днём яму многа работы — // Шчасце няспынна куе для народаў".

Недалёка адышоў Панчанка ад яўнага прымiтыву i ў вершы "9 лютага 1947 г." з яго радкамi: "Хай славiцца i красуе // Наш родны Савецкi лад. // Я за цябе галасую, // Мой будучы дэпутат". Пiсалася такое пра нашы тагачасныя выбары без выбару, бо "будучы дэпутат" (той жа Сталiн), у выбарчым бюлетэнi быў адзiн. А як сёння можна спакойна чытаць такую, таксама ж некалi ходкую, народжаную сваiм часам, злабадзёншчыну з верша "Пяе беларускi народ": "Слава пiльным чэкiстам! Не ступлен iх меч! // Беларускi народ ашчаслiўлены". I гэта ж сцвярджалася ў 1937 годзе, на патрэбу таму проста жахлiваму часу, калi "пiльныя чэкiсты" па сталiнскай волi знiшчалi мiльёны нi ў чым не вiнаватых перад савецкай уладай людзей...

Ёсць у кнiзе Гнiламёдава асобныя фактычныя недакладнасцi. "Адсюль, з 60-х гадоў, пачалася ручаiна творчасцi такiх выдатных нашых пiсьменнiкаў i паэтаў, як памянёны В. Быкаў, А. Пысiн, М. Стральцоў, У. Караткевiч, I. Навуменка, Б. Сачанка, Н. Гiлевiч, С. Гаўрусёў, I. Чыгрынаў, В. Адамчык, В. Зуёнак, I. Пташнiкаў, Г. Бураўкiн i iнш.", — пiша крытык. Маючы на ўвазе празаiкаў i паэтаў, бо пiсьменнiкi, якiя прадстаўляюць iншыя жанры, скажам, драматургi, у яго тут не згадваюцца. Творчая праца ўсiх гэтых празаiкаў i паэтаў у 60-я гады сапраўды была актыўнай. Але ўсе яны пачалi друкавацца раней, яшчэ ў 50-я, а некаторыя i ў 40-я гады. Гэта датычыць i Быкава, першыя апавяданнi якога з'явiлiся ў друку ў 1949 годзе, а ўжо з другой паловы 50-х гадоў яго творчасць выклiкала значны грамадскi рэзананс. У 50-я выдалi па дзве кнiгi А. Пысiн, I. Навуменка, Н. Гiлевiч (друкуецца з 1946 года), С. Гаўрусёў (друкуецца з 1948-га). Мелi свае зборнiкi ў 50-я гады В. Адамчык, I. Пташнiкаў, У. Караткевiч. Яго "Матчына душа" (1959) — адна з самых выдатных кнiг нашай паэзii.

Памылкова называецца апошнiм зборнiкам М. Танка "Мой каўчэг", выдадзены ў 1994 годзе. Ужо тады, калi пiсалася праца Гнiламёдава, выйшаў i яшчэ адзiн танкаўскi зборнiк — "Errata". Ён быў здадзены ў набор у сакавiку 1995 года, а падпiсаны да друку 8 жнiўня таго ж года, за дзень да смерцi паэта.

Сустракаюцца дробныя недакладнасцi i ў назвах асобных паэтычных кнiг: "Бураўкiнскi "Выток" перахрышчаны ў "Вытокi", добра вядомы зборнiк Я. Янiшчыц "Пара любовi i жалю" (1983) атрымаў назву "Час кахання i суму". I падаецца той "Час кахання i суму" як яшчэ адна кнiга паэтэсы, выдадзеная ў 1984 годзе. Вiдаць, у вынiку механiчнай памылкi пераблытана дата смерцi Янкi Лучыны, названы 1879 год замест 1897-га.

Прыдзiрлiвы чытач, напэўна, знойдзе i iншыя дробныя пагрэшнасцi або спрэчныя мясцiны ў кнiзе Гнiламёдава. Але i пры самым прыдзiрлiвым стаўленнi да працы крытыка нельга не прызнаць, што яму ўдалося зрабiць галоўнае: у цэлым пераканальна паказаць вялiкае багацце нашай паэзii, якая i пры тых перашкодах, што паўставалi на яе шляху, змагла таленавiта, рознабакова адлюстраваць многiя праявы быцця беларусаў, iх духоўнасцi, iх менталiтэту.

Але закончана кнiга не на бадзёра-бравурнай, а на скрушлiвай ноце, канстатацыяй таго, што свет мала ведае нашу лiтаратуру i нас як самабытную нацыю. I гэта праўда, горкая i балючая. Прычына тут не ў самой лiтаратуры, па багаццi якой мы можам спаборнiчаць з многiмi больш шчаслiвымi народамi, а ў той парадаксальнасцi, у якой беларушчына апынулася ў сябе на радзiме. Нацыянальна свядомыя беларусы цяпер i праўда сталi тут недастаткова абароненай меншасцю, а наша мова ўсё яшчэ мусiць змагацца за сваё выжыванне. I гэта вельмi нялёгкая справа пры вялiкiм размаху русiфiкацыi, якая шмат гадоў з усiх бакоў наступае на беларушчыну i так зацiснула нас, што цывiлiзаваны свет ужо i не вельмi ўпэўнены, цi жывыя мы яшчэ як самабытны этнас, якi мае будучыню. Як гэтай навале супрацьстаяць? Хочацца спадзявацца, што такiя сумленныя, з душою праўдзiва беларускай зробленыя працы, як кнiга У. Гнiламёдава, таксама будуць хоць трохi спрыяць беларушчыне, яе выжыванню.

**Дзмiтрый БУГАЁЎ**

КНIГАРНЯ

***Iдэя падрыхтаваць гэтыя кнiгi ўзнiкла напярэдаднi 80-годдзя з дня ўтварэння БДУ. Укладанне навуковец i пiсьменнiк Алесь Бельскi завяршыў своечасова. Але не ўсё гэтак хутка робiцца, як гаворыцца, ды i час бяжыць iмклiва. Таму ён здолеў ажыццявiць выдавецкiя праекты толькi напрыканцы мiнулага года. На сённяшнi дзень кнiгi "Iмёнаў светлае аблiчча" i "Смяяцца не грэх" паступiлi ў Нацыянальную бiблiятэку Беларусi.***

# ДВА ПРАЕКТЫ АЛЕСЯ БЕЛЬСКАГА

Першая кнiга – сур'ёзная, мемарыяльна-лiтаратуразнаўчая. Зборнiк складзены пераважна з артыкулаў, эсэ i ўспамiнаў выкладчыкаў фiлалагiчнага факультэта БДУ пра сваiх былых калег – вядомых вучоных i пiсьменнiкаў, якiя ўжо пайшлi з жыцця. Цiкавыя штрыхi да партрэта пiсьменнiка робiць Д. Бугаёў, М. Тычына, Т. Шамякiна. Ю. Пшыркова добра ведалi А. Лойка i К. Хромчанка, якiя пiшуць, што Юльян Сяргеевiч як вучоны вылучаўся аналiтычнасцю думкi, ён заклаў перспектыўныя кiрункi ў нацыянальным лiтаратуразнаўстве, а яшчэ быў шчодрым на сяброўства i дабрыню чалавекам. "Ён жыў сумленна, без аглядкi" – даводзiць у сваiм артыкуле пра Р. Семашкевiча крытык Д. Бугаёў. А. Лойка перакананы, што Семашкевiч быў "з роду Гамлетаў". Нестандартныя, так бы мовiць, успамiны напiсалi пра гэтага паэта i крытыка таксама Т. Шамякiна i Л. Сiнькова. Не забыўся ўкладальнiк пра былых фiлфакаўцаў, Семашкевiчавых сяброў – Юрку Голуба i Алеся Жука, якiя даюць сваё ўспрыманне асобы i жыцця пiсьменнiка, чый зямны шлях абарваўся ў няпоўныя 37 гадоў. Шмат гадоў выкладаў на кафедры методыку роднай лiтаратуры выдатнiк народнай асветы Беларусi Л. Царанкоў. Шлях яго ў лiтаратуру пачынаўся яшчэ ў 20-я гады. Ён напiсаў 10 кнiг i каля 200 артыкулаў па пытаннях беларускай лiтаратуры i методыцы яе выкладання. Да таго ж ён быў удзельнiкам славутай Сталiнградскай бiтвы. Пасля смерцi пра Л. Царанкова (пайшоў з жыцця ў 1994 годзе) амаль нiчога не пiсалася ў нашым друку, таму добра, што калегi расказалi пра яго працу на нiве лiтаратуры i адукацыi (артыкул А. Шыловiч i М. Яфiмавай "Дарагi наш калега...").

Прэзентацыя зборнiка "Iмёнаў светлае аблiчча" прайшла ў БДУ да 90-годдзя з дня нараджэння былога дэкана фiлфака i загадчыка кафедры беларускай лiтаратуры Мiхася Ларчанкi.

На унiверсiтэцкай кафедры беларускай лiтаратуры ў розны час працавалi Алесь Адамовiч, Сцяпан Александровiч, Варлен Бечык, Мiкола Грынчык, Сяргей Гусак, Мiхась Ларчанка, Iван Мележ, Юльян Пшыркоў, Рыгор Семашкевiч, Леанiд Царанкоў. Асэнсаванне асобы А. Адамовiча – у цэнтры артыкулаў А. Лойкi i М. Тычыны. Пра выключную ролю С. Александровiча ў развiццi гiстарычнага лiтаратуразнаўства, яго ўклад у беларускую культуру пiшуць Д. Бугаёў, Н. Гiлевiч, А. Лойка, А. Каўка, М. Яфiмава. "Прага красы i праўды" – так назваў свой артыкул пра крытыка В. Бечыка былы яго студэнт А. Бельскi. Неўзабаве пасля смерцi М. Грынчыка яго паплечнiк i сябар А. Лойка напiсаў успамiны "Мудрэц i красамоўца", тут жа змешчаны i Лойкаў верш, прысвечаны прафесару з Быценя. Пра жыццё С. Гусака, абарванае на ўзлёце, апавядае Д. Бугаёў. Гэта адзiн з першых грунтоўных артыкулаў пра заўчасна памерлага беларускага крытыка, якi, да таго ж, у свой час быў рэктарам Брэсцкага педiнстытута. Для ўсiх тых, хто пiша пра М. Ларчанку, ён быў Настаўнiкам, якi блаславiў на шлях у навуку. Слова пра Ларчанку гавораць В. Казлова, А. Лойка, В. Рагойша, У. Навумовiч, Л. Карпава, Т. Шамякiна. Iван Мележ – не толькi славуты выпускнiк, але i выкладчык БДУ. Пра яго унiверсiтэцкi шлях распавядае В. Казлова.

А вось кнiга "Смяяцца не грэх" зусiм iншая – жартоўная, вясёлая, дасцiпная. Афармлена яна як "калектыўная дысертацыя на атрыманне вучонай ступенi кандыдата гумарыстычных навук". Выканана яна пад "агульным кiраўнiцтвам доктара i прафесара ўсiх навук Хвядоса Рагатуна". Праца пабудавана па дысертацыйных канонах: тут ёсць уводзiны, тры раздзелы, заключэнне, спiс лiтаратуры, iмянны паказальнiк. У першым раздзеле сабраны абiтурыенцкi гумар. I чаго толькi не прачытаеш у сачыненнях учарашнiх выпускнiкоў! Далей чытача павесяляць i пацешаць "Запiскi Фiлона Тутэйшага". Старонкi дыярыуша гэтага "стадыёзуса з Менска" калiсьцi друкавалiся на старонках "ЛiМа". У зборнiку "Смяяцца не грэх" дыярыуш пададзены цалкам, ён складае аснову выдання. Самы багаты трэцi раздзел, тут змешчаны разнастайныя творы: вясёлыя вершы, песнi, гумарэскi, эпiграмы, пародыi, анекдоты, байкi, жарты i досцiпы. Выкладчыкi жартуюць адзiн з аднаго, кпяць, часам не шкадуюць "шпiлек". Адчуваецца, што на кафедры беларускай лiтаратуры БДУ працуюць жывыя i дасцiпныя людзi, якiя не хварэюць на манiю велiчы. Нямала ў зборнiку эпiграм i пародый на кафедралаў, якiя напiсалi вядомыя парадысты. Сеансам смехатэрапii будзе чытанне твораў выкладчыкаў кафедры беларускай лiтаратуры (як былых, так i цяперашнiх) А. Лойкi, I. Навуменкi, Н. Гiлевiча, Р. Семашкевiча, Д. Бугаёва, Л. Ламекi, В. Казловай, А. Бельскага, В. Максiмовiча, А. Пашкевiча i iнш., аспiрантаў i студэнтаў фiлфака В. Жыбуля, А. Бязлепкiнай, А. Усава i iнш., выпускнiкоў БДУ К. Крапiвы, Р. Барадулiна, М. Мятлiцкага, С. Сокалава-Воюша, М. Скоблы i iнш. Сапраўднай прыўкрасай кнiгi сталi пародыi i эпiграмы Г. Юрчанкi, а таксама шаржы К. Куксо, малюнкi У. Караткевiча.

Запланавана прэзентацыя гэтай жартоўна-гумарыстычнай кнiгi была на 1 красавiка аж на 6 гадзiн ранiцы. Цiкава, цi пайшоў хто на тое ранiшняе "пасяджэнне савета па абароне ўсiх дысертацый"?!

Абодва выданнi пабачылi свет дзякуючы не толькi ўкладальнiку, але i дзейснай дапамозе яму Паўла Навуменкi, Алены Бельскай, Iрыны Шык.

**Яўген НIКАЛАЕНКА**

УРАЖАННЕ

# МУЗЫКА КВЕТАК

Iмя паэткi Нiны Захарэвiч больш ведаюць, магчыма, не яе калегi па пяры, а аматары народнай музыкi i спеваў, беларускага фальклору. Бо яна пераможца конкурсаў прыпевак, праведзеных газетамi "Звязда" i "Рэспублiка", лаўрэат II Усебеларускага фестывалю гумару ў Аўцюках у намiнацыi "Аўтарская байка". За ўдзел у падрыхтоўцы фестываляў "Звiняць цымбалы i гармонiк" Н. Захарэвiч атрымала Ганаровую грамату Мiнiстэрства культуры Беларусi.

А па сваёй адукацыi гэтая паэтэса наогул... фiзiк. Яна закончыла фiзмат Мiнскага дзяржаўнага педiнстытута iмя М. Горкага. Працавала ў дзiцячым садку, была школьнай настаўнiцай, iнспектарам РАНА ў Мядзелi i Паставах... У гэтым годзе 22 мая паэтэса адсвяткуе свой 70-гадовы юбiлей. Калi меркаваць па двух паэтычных яе зборнiках — захаваць душэўную мападосць Нiне Маркаўне дапамагаюць пачуццё гумару i ўменне радавацца жыццю ва ўсiх яго праявах. Выпусцiлi кнiгi вершаў Н. Захарэвiч выдавецтвы "Беларускi кнiгазбор" (зборнiк "Бэзавы цвет") i "Тэхнапрынт" (зборнiк "Жнiвеньскi вецер"). Абедзве кнiгi выйшлi ў 2002 годзе. Iх найлепшыя якасцi, на маю думку, у тым, што яны ствараюць у чытача добры настрой — прычым не проста добры, але нават святочны... Гэтыя зборнiкi поўняцца нейкай адметнай, чыста жаночай цеплынёй. Чамусьцi прыгадваю М. Багдановiча, якi, магчыма, першы заўважыў: жанчына-мацi — не заўсёды мацi. Я хачу сказаць, што дабрыня i душэўнасць жанчыны вельмi часта абсалютна не залежаць ад таго, цi ёсць у яе дзецi. Мацярынства — гэта нейкае большае пачуццё (шырэйшае, цi што). У кнiгах лiрыкi Н. Захарэвiч адлюстравана яе душа пяшчотнай i клапатлiвай жанчынымацi (на шчасце, сям'я ў паэтэсы ёсць). А таму чытаць яе вершы прыемна i радасна — асаблiва змучанаму нашай крыху змрочнай рэчаiснасцю чалавеку. Цi можна назваць такую паэзiю прыкладам "масавага" мастацтва (бо яно гэтаксама прызначана гаiць i суцяшаць пакрыўджаныя сэрцы)? Давайце паглядзiм...

*Хоць вельмi цяжка гараваць, —*
*Я замкi ўмею будаваць,*
*Шмат збудавала на вяку*
*З паветра замкаў цi з пяску.*

("Замкi")

Будуе паэтэса не толькi замкi. Дзеля таго каб лягчэй пераносiць цяжар будзённых расчараванняў, яна iмкнецца ладзiць асабiстае шчасце i ратавацца каханнем:

*Ты ўчора звянчаны, а я заручона,*
*Пярсцёнак на пальцы блiшчыць*
*залачоны.*
*Не той даў пярсцёнак, каго я кахаю,*
*Таму пры сустрэчы з табой*
*уздыхаю.*

("Што скажуць нам людзi")

Яна шчыра захапляецца красой навакольнага свету, умее радавацца яму i перадаваць свае пачуццi, адчуванi iншым:

*Памерлi травы, ссохлi кветкi,*
*Шарэе ворыва масiў,*
*А на раллi той неўзаметкi*
*Кусточак люцiка расцвiў.*

("Люцiк")

Усе вершы Н. Захарэвiч песенныя — магчыма, трохi спрошчаныя, але вельмi жыццесцвярджальныя. Адзiн з iх даўно пертварыўся ў папулярную салдацкую песню ("Ой ты, каша"). Ды i iншыя, думаецца, заслугоўваюць самай пiльнай увагi нашых беларускiх кампазiтараў.




I яшчэ паэзii Нiны Маркаўны ўласцiва моцнае пачуццё патрыятызму. Беларускасць, якая баiцца гучных лозунгаў i жыве нязмушана, для сябе самой — i крышачку для iншых...

А "сучасныя прыпеўкi" паэтэсы ўражваюць чысцiнёй i несапсаванасцю народнай душы i духу. Цэльнасць натуры, самабытнасць таленту адчуваем мы ў такiх радках:

*Тут заморскiя прадукты*
*запатыя па цане.*
*Што мне рэдкасныя фрукты —*
*дайце ўволю бульбы мне!*

("Сучасныя прыпеўкi")

Нездарма народны паэт Беларусi Рыгор Барадулiн пахвалiў Нiну Захарэвiч за "нязмушаную беларускасць". Хочацца пажадаць: хай такiх паэтэс будзе ў нас болей! Хiба тады многiя задумаюцца — цi варта наракаць на сваю долю. Не, не варта. На сябе самога — можна...

**Святлана ЯВАР**

# "АКВАРЭЛЬКІ" ЛЯВОНА ВАЛАСЮКА

...Паэт Лявон Валасюк — прафесійны мастак-дызайнер. У ягоным творчым багажы ўжо чатыры зборнікі вершаў, выдадзеных у Брэсце з 1999 па 2003 год уключна ("Блики дня", "Краски души", "Под знаком Стрельца", "Леаніды"). Такой працавітасці пазайздросцілі б многія літаратары. Адметна, што Л. Валасюк перайшоў на родную мову. Такім чынам, "Леаніды" — апошняя па часе паэтава кніга, што выйшла сёлета ў прэстыжнай серыі "Берасцейскае вогнішча".

Прадмову да зборніка напісаў Алесь Каско. Шчыра кажучы, я ніколі не пачынаю знаёмства з кнігай з прадмовы, дзе даецца аналіз твораў пісьменніка. Для мяне важна адкрыць аўтара самому, без навязвання і падсвядомага паўтарэння чужых, ужо абгавораных, думак. Прыемна, калі яны пераклікаюцца, дапаўняюць адна другую. Тут з А. Каско ў мяне поўная, так бы мовіць, салідарнасць.

Вершы Л. Валасюка нешматслоўныя, гэткія філасофскія карацелькі, прачытаўшы якія нехта можа сказаць: паглядзеў — і нічога... Гэта на першы погляд. Невялікія творы варта чытаць удумліва — па радках, па словах, адчуваючы іх сэнс, адценні і колер. У Л. Валасюка — менавіта колер. Бо ён найперш — мастак. Намаляваць карціну ўбачанага і перадаць яе словамі — розныя рэчы. Чалавек, які піша палотны фарбамі, будзе імі карыстацца і ў паэзіі. Таму і гучаць зусім па-мастакоўску, жывапісныя назвы раздзелаў зборніка: "Філасофская прастора", "Ліловыя прыцемкі", "Сачыцца фарбаў святочнасць"...




Палітра Л. Валасюка, нібы вясёлка, пераліваецца ў сонечным святле, дорачы радасць паслянавальнічнай свежасці:

*Зялёны дождж*
*Над жоўтым полем...*
*Зялёны пах*
*Мядовых траў*
*Нас да ўскрайку горада*
*Праводзіў...*

Або: "На кончыку пэндзля вясёлка. На мокрай паперы святло расплылося".

Правільна заўважыў А. Каско, што Валасюковы верлібры, розныя па настраёвасці, нагадваюць "сколкі перажытага аўтарам, іскрынкі памяці, знічкі імгненняў быцця": *"Я азірнуўся, вярнуўся... Буду памятаць дзедаў сад — хлапчынаю там застануся..."; "Маладая радзіма — бусел у гняздзе. Калодзеж ля дома, ліхтар на слупе..."; "Прывыкаю да Брэста асенняга. Пахі лісця стаяць у душы..."*.

Мне цяжка выбраць з безлічы арыгінальных сакавіта-квяцістых "Акварэлек" найбольш цікавыя, адметныя. Усе яны дапаўняюць адна другую: нейкім матывам, сэнсам, штрыхом, адценнем урэшце.

Л. Валасюк умее бачыць прадмет у нязвыклым кантэксце, падбіраючы яму адпаведны фонавы настрой, "філасафему", дэталь, значэнне якой раскрываецца нечакана, трохі нязвыкла, узбуйнена: *"Мала добрых слоў... Безліч незнаёмых твараў... Паміж сноў палёт сініц..."; "На палоскі блакіту парвана неба. Белымі ніткамі зранку мне цыраваць..."; "Зара, зараніца, заранка... Чырвоная птушка — маланка,зорак рассыпаны след — з далоні матчынай хлеб..."*.

Упэўнены, паэтычныя мініяцюры Л. Валасюка не пакінуць чытача абыякавым, у кнізе паэт здолеў стварыць дзіўны свет з малюнкаў, настолькі каларытных і вобразных, светлых і прыцягальных, што дысананс жыцця становіцца неадчувальным.

*На вечаровым небасхіле*
*Агні няблізкія планід.*
*Зеленаколерна злятае*
*Ў далоні снег ад Леанід...*

Сяргей ГРЫШКЕВІЧ



Віктар ШНІП



## БАЛАДА БЕЛАРУСКІХ ГЕРОЯЎ

Згубілася-забылася ў вяках,
Як вершаў геніяльных у чарнавіках,
Герояў многа беларускае зямлі,
Што і не зналі, што героямі былі.
І мы не знаем іх
і ўжо не будзем знаць,
Бо ўсе яны даўно
ў зямлі сырой ляжаць,
А іх магіл няма і быццам не было,
Але былі яны, а іхняе святло
Жыве між нас,
нібы ў чарнавіку той верш
Дзеля якога нарадзіўся і жывеш.
Ды пройдзе час
і з'явяцца на свет яны,
Нібыта вернуцца з далёкае вайны,
І скажуць нам
чаго мы вартыя з табой,
Хто з нас паэт, хто здраднік,
ну а хто герой.
І вершаў геніяльных у чарнавіках,
Нібыта ў чорных,
як абвугленых, палях,
Ці адшукаць нам, як магіл,
якіх няма.
І будзе зноўку вінаватая зіма,
Што замятае вёскі, гарады, палі,
Якія ёсць у нас, як і былі...

## БАЛАДА ЗІМЫ

Як доўга не канчаецца зіма,
Нібыта сон,
што мёртваму прысніўся!
Для мёртвага труна, нібы турма,
З якой не збегчы—
смертна правініўся.

А мне жывому прычакаць цяпла
І ўспомніць светла мёртвых,
як вярнуць
Той дзень, калі вясна ва ўсім была
І мала хто бярог сваю вясну.

Як доўга не канчаецца зіма,
Дзе завіруха, як лясны пажар,
За мной ідзе і шляху ўжо няма
Назад вярнуцца, дзе стары ліхтар
Ля хаты той, дзе мы з табой былі,
Не думалі, што ўсё часова тут
На гэтай белай, як зіма, зямлі
І толькі вечны наш бацькоўскі кут...

Як доўга не канчаецца зіма!
І вецер, як забытая сурма,
Мне чуецца і слёзы на вачах
Мне асвятляюць да праталін шлях...

## БАЛАДА ХРАМА

Тут, дзе сонца, як човен, у хмарах,
Як агонь, што гуляе ў пяску,
Белы Храм, як анёльская мара,
Асвятляе крыжамі раку,
У якой нараджалася сонца
І ўсплывала над светам і мной,
І здавалася ранне бясконцым,
І жыццё было вечнай ракой.
І дарогі ад белага Храма
Нас вялі і не думалі мы,
Што без Храма
мы знікнем таксама,
Як без нас пазнікалі дамы,
Дзе жылі нашы казкі і песні,
Дзе было нам пра што ўспамінаць,
Дзе ля печ выспяваў вецер весні
І хацелася не паміраць
Тут, дзе сонца, як човен, у хвалях,
Як святло,
што ў бацькоўскім вакне,
Што нам свеціцца з далечных-даляў
І не тоне ў чарнюткім віне,
І таму нам вяртацца да Храма,
Што стаіць ля прыціхлай вады,
І маліцца за бацьку і маму,
І за нашы ў пустэльні сады...

## БАЛАДА МАНЦЬЕРЫ

Быццам верш на чарнюткай паперы,
Ты хацеў нарадзіцца ў Манцьеры,
Каб нічога не ведаць пра нас.

Але ўжо ты не хочаш нічога,
Бо даўно затравела дарога
Да Манцьеры да самай якраз.

І няма аніякай Манцьеры,
Быццам вершаў на чорнай паперы
Не было, бо ніхто не пісаў.

Але ты ўсё ж хацеў нарадзіцца
У Манцьеры, з якой нам дзівіцца,
У якую ты ў думках лятаў.

•

Самота мая незямная,
Гаркавая, нібы віно,
Якое ты мне наліваеш,
Нібы адчыняеш вакно
Для ветру, які не самотны,
Як сонца, што ў хмарах плыве
Над светам шчасліва-гаротным,
Над Храмам, які затравеў,
І ты мне віно наліваеш,
Нібыта вяртаеш назад
У свет, што даўно мы не знаем,
Прыгожы, бы ў квецені сад,
Дзе вецер без нас не самотны,
Дзе лісце, як дым ад кастра,
Дзе сцежкі, як лёну палотны,
Дзе мы, нібы брат і сястра,
І я шчэ не знаю самоты,
І я не люблю шчэ віно.
Крыжамі лятуць самалёты.
І мне зачыняеш вакно
Ад свету, нібыта ад дыму.
Адна ты шкадуеш мяне
І любіш, як любіш Радзіму
У кроплі дажджу на вакне...

## СЯБРОЎСКАЯ БАЛАДА

...Я стаў чужым,
як выпітая пляшка,
Што ля дарогі пад кустом ляжыць,
Дзе час ідзе спакусна, як манашка,
Якую нельга, як віно, любіць.
Я стаў чужым, як лісце пад нагамі,
Што страціла
раптоўна прыгажосць,
Бо дзень прайшоў,
аплаканы вятрамі,
Як наша залатая маладосць.

Я зноў адзін, як выхад з лабірынта,
Як цішыня на вастрыі мяча,
Як кроў на белым
мёртвым полі бінта,
Ці зноў не разумею ні чарта
Я ў гэтым свеце, дзе сябры, як цені,
Бываюць толькі ў сонечныя дні
І нашы справы, нашы летуценні
Нявечныя, як вечныя агні...

Я стаў чужым, нібы чужое гора,
Якое аніхому не баліць.
Яшчэ хачу вярнуцца я ва ўчора,
Яшчэ хачу манашку спакусіць
І быць чужым, як Азія чужая,
Якую нам павек не зразумець
І мы па-над Еўропай пралятаем,
І доўга нам фанераю ляцець...

•

Дымотна канчаецца тлумнае лета,
Нібыта згарае ў цябе цыгарэта
На сподку зялёным, які пажаўцеў,
Нібыта той ліст,
што на стол твой зляцеў
З высокага клёна,
што стаў адзінокім
У садзе тваім, у якім пад аблокі
Па дыме ўздымалася ціш незямная,
Нібыта малітва, якая не знае
Яшчэ сваіх слоў,
быццам птушка палёту,
Якая ў нябёсы, як пчолы да мёду,
Імкнецца, бо сумнае дымнае лета
Душу разбівае,
як стрэл з пісталета
Б'е пляшку пустую, якую ўскідаеш
У неба, нібыта з ёй сам узлятаеш,
Каб бачыць дарогу,
што там за гарою,
Дзе мы яшчэ разам шукаем спакою...

•

У гэтым дні хачу з табой застацца,
Нібы згарэць у залатым агні,
І белым попелам
над светам разлятацца
І заставацца ў кожным новым дні,
Як застаюцца нашыя дарогі,
Як застаецца нашае цяпло
У гэтым краі, не забытым Богам,
У гэтым Храме, дзе жыве святло.
У гэтым дні хачу табе прызнацца,
Нібы па венах брытвай паласнуць,
Сказаць табе, што я хачу застацца
З табой, каб разам
сустракаць вясну,
Якая дзесь далёка за гарамі,
Але якая ёсць і будзе тут,
Нібы ікона ў Храме перад намі,
Нібыта ў нашых сэрцах родны кут...

•

Растане снег,
вадой запоўняцца сцяжыны
І наша неба адлюструецца ў вадзе,
Нібы ў слязах
ад сну абуджанай Айчыны,
І нас праз неба пошум ветру павядзе
Да цеплыні, якая сёння толькі сніцца,
Якой няма і, знаю, не было зусім
Зімой, калі не ведалі каму маліцца,
На міг у полі заблудзіўшыся сваім.
Растане снег
і змыецца з дарог брыдота
І нашы цёпла нам засвецяцца сляды,
Нібы пад белым шклом,
пад белым кволым лёдам,
Нібыта ў плыні часу, у бруі вады.
І ўспомню я,
што нашыя ў палях сцяжыны
Належаць нам, як гэта неба і зямля
І што між іх,
як рэчка ў берагах, Айчына,
І, быццам крыга,
што сарвана плынню, я...

•

**Только ты стоиш перед глазами,**
**Как звезда стоит перед землёй.**

Ю. КУЗНЯЦОЎ

Не глядзі на мяне, як чужога.
Я не быў і не стану чужым,
Бо адна ў нас з табою дарога
Праз агонь, праз ваду і праз дым,
У якім не пазнаць нас з табою,
Але я застаюся сабой,
Быццам крыж над забытай царквою,
Быццам неба над роднай зямлёй.
І не стаць мне чужым аніколі,
Як не стане зямля нам чужой,
На якой мы, шукаючы волі,
Не знаходзім сцяжын між сабой.

•

Пройдзе час і гэты шум адыдзе,
Праз які сягоння не чуваць
Як расце, не думае аб крыўдзе,
Праз асфальт вясновая трава.

Пройдзе час і зразумеем тое,
Што цяпер не можам зразумець.
І на дрэвах лісце залатое
Перальецца ў восеньскую медзь.

І мы скажам, што былі не правы,
Дзе былі не правымі, і ты
Адрачэшся, як ад крыл, ад славы
І збудуюцца між нас масты.

Будзе ўсё, але ўжо больш не будзе
Гэтых дзён, што ў шуме нежывым
Тонуць, быццам у балоце людзі,
Быццам зоркі ў мроіве начным...



# ЗЯЛЁНЫ АКІЯН, ЗАЛАТЫЯ БУРБАЛКІ

Югася КАЛЯДА



*Ахвярую брацiку Вiктусю*

З Маленькаю Пісьменніцай я сябраваў трынаццаць гадоў, пакуль яна не памерла.

Пазнаёміліся мы, калі ёй было пятнаццаць, мне — дваццаць чатыры.

Праз мітынговы гармідар, чалавечы і сцягавы натоўп да мяне праціснулася кволае дзяўчо, вачыма луп-луп: "Я хачу з вамі сябраваць". Я не адразу дапяў, што яна казала: не "з Вамі", а "з вамі", то не са мною, а з маёй арганізацыяй. У ейным веку было цалкам натуральна захапляцца рамантычнымі павевамі змагання і рэвалюцыі, што і шпурлянула яе на рызыкоўнае "каханне на барыкадах".

Я вынішчаў ейную "дзіцячую бздуру", як яна сама здыягназавала сваё каханне да мяне, моцнаю каваю ў гатэльных рэстарацыях, дзе мы туляліся ў часе семінараў і канферэнцыяў, ды прафілактычнымі гутаркамі. Яна пазірала ў кубачкі, камечыла сурвэткі.

— Я разумею, я ўсё разумею. Ты думаеш, я маленькая? (Уздых.) Я ў арганізацыі не дзеля цябе (уздых), а дзеля Ідэі...

Маленькая Пісьменніца была надзвычай добрая вучаніца. Працаваць з ёю было лёгка: мазгоў ды апантанасці не бракавала, і зразумець усё яна старалася грунтоўна. Нагэтулькі глыбока, што праз тры гады з гакам стала на парозе, адважна зірнуўшы мне ў вочы, сашчапіла ручкі ды прамовіла:

— Я сыходжу. Мне нецікава гуляць у гульню, канец якое я знаю.

Павярнулася ды пайшла.

Я быў крыкнуў наўздагон: "Дык, мо, табе і жыць нецікава?" — не азірнулася.

Я мог яе спыніць. Я мог давесці ёй, што перамога — не самамэта, што мы змагаемся не за перамогу, а за народ, за лепшае... Я не стаў. Я махнуў рукою. Чалавек, які аднойчы пазбавіўся матывацыі, назаўсёды страчаны для палітыкі.

Чатыры гады мы не бачыліся і не чуліся. Гэтулькі падзеяў адбылося за гэты час, што нават пасля таго, як Маленькая Пісьменніца замахала мне рукою з трамваю: "Viva, Caesar, Imperator, morituri tee salutant![1]", я не дабраў часу, каб ёй патэлефанаваць.

Кар'ера мая імкліва неслася ўгару, жыццё — долу. Я не паспяваў жыць, я не паспяваў працаваць, я верыў, што, апрача мяне, аніхто не адолее мае працы, ніхто не дасягне тых мэтаў.

І тут з'явілася Маленькая Пісьменніца.

Калі ўвечары кіроўца давёз мяне да пад'езду, яна сядзела на ганку і паліла, кінуўшы марнае дужанне з кодавым замком.

Вачыма луп-луп:

— Мне сумна.

Зусім не змянілася. У свае дваццаць тры гады яна выглядала на семнаццаць, нібыта забылася, што людзям трэба сталець. Не пасыцела, замуж не выйшла, дзяцей не нарадзіла... Лайдачка, хіпуха, таннымі спадніцамі мяце асфальт — значыца, працы таксама не мае!.. Яна не мела нічога, апрача кілаграмаў бразготак на шыі, руках ды нагах.

Напачатку мяне раззлавала яе з'яўленне: я адчуваў, што Маленькая Пісьменніца ўваходзіць у маё жыццё не пагрукаўшы, не спытаўшы дазволу. Але пасля я супакоіўся: гэтае дзяўчо, што выдавала на яшчарку, не надта назаляла мне; зрэшты, я звыкся.

Яна з'яўлялася прыкладна раз на месяц, пакідала ў калідоры мокрыя боты або падраныя басаножкі — у залежнасці ад надвор'я, — труціла кухню сінім дымам і мяне — фантазіямі хворага розуму.

Гутаркі нашыя заўсёды адбываліся на кухні. Яна выпівала літры кавы, нішчыла пачкі цыгарэт; і мы гаварылі, гаварылі... Менавіта гаварылі, а не размаўлялі: здагадваюся, што яна не надта паглыблялася ў мае праблемы, гэтаксама як і я — у ейныя. Ахвярнасць мая была вартая помніка: я меў надта многа клопату, мне вельмі хацелася спаць, але ніводнага разу я не папрасіў яе сысці.

Маленькая Пісьменніца як была, гэтак і засталася для мяне неразгаданаю таямніцаю. Што ёй трэба было ў жыцці? Чаго яна хацела ад мяне? Сяброўства зацягнулася: гэтулькі гадоў дзівачка прыходзіла да мяне проста так...

Галава Маленькае Пісьменніцы была забітая рознаю кастанедаўскаю лухтою, маркесамі ды борхесамі. Як высветлілася пазней, почасту яна гэтак і прамаўляла: цэлымі кавалкамі з іхніх кніжак.

— Ты зірні, зірні навокал: у тваёй кватэры заўсёды сакавіцкі чацвер! Фіранкі, стол, зэдлікі — яны чацвярговыя! Тут аніколі нічога не мяняецца — час замкнуўся ў кола.

Спачатку мяне перасмыкнула праз адкрыццё — высвятляецца, яна гаворыць чужымі думкамі! — але цяпер, аналізуючы, я зразумеў, што гэтае цытаванне — толькі адзін са складнікаў ейнае жыццёвае філасофіі. "За базар ответишь, — казала яна, — базар мае быць дасканалым". Зірнуўшы ёй у вочы, хацелася перажагнацца: з-пад вейкаў Маленькае Пісьменніцы валіў такі туман, нібыта вярталася яна шторазу не ў сваю кватэру, а на балота.

Я разумеў, што, каб скончыць гэтае вар'яцтва, варта толькі пакінуць яе начаваць, але... Нешта мяне трымала.

Апошнюю нашую сустрэчу я запомніў добра. Сто разоў я перабіраў у памяці драбніцы: перад, у часе і пасля пахавання, дзе мне давялося цалаваць халодны лоб Маленькае Пісьменніцы.

Яна прыйшла, выцягнуўшы мяне з лазенкі, і, пакуль я дамываўся, паспела пракурыць кухню.

Я сядзеў пры стале, яна — на падваконні: паліла ў фортку; мы пілі каву, я расказваў пра апошнюю нараду, пра іншыя важныя справы. Маленькая Пісьменніца слухала, глядзела ў акно, перабірала касцяных рыбак, што віселі на ейнай шыі... Раптам перапыніла мяне.

— Я буду табе чытаць, — палезла ў торбу па сшытак, — слухай.

Я думаў пра сепаратысцкія тэндэнцыі ў партыях.

Маленькая Пісьменніца пстрыкнула фільтрам у фортку, села насупраць.

— Тут гісторыі пра чалавечую адзіноту.

"Маркес, блін, у спадніцы", — падумаў я, але змаўчаў.

— Гісторыя першая. "Пра дзяўчынку-баскетбалістку". "Жыла-была дзяўчынка. Яна хадзіла ў школу — спачатку ў першы клас, пасля ў другі, і гэтак далей. Але пасля яна вырасла і стала вельмі высокаю — метр і дзевяноста два сантыметры. Дзяўчынка была прывабная, вясёлая, і вучылася яна на пяцёркі, і бацькі яе любілі, і сябровак яна мела добрых, адна нават як сястра. Але нікому з хлопчыкаў дзяўчынка не падабалася. Хлопчыкі міжсобку казалі, што ў яе надта шырокія плечы — "як у мужыка", і сцёгны тлустыя, і сама яна нязграбная. І хлопчыкі праводзілі дахаты ўсіх, толькі не яе, і на вечарынках з ёю ніхто не танцаваў. І дзяўчынцы праз гэта было вельмі балюча, і яна плакала ўначы, але пра гэта ніхто не ведаў. І тады дзяўчынка пастанавіла, што будзе займацца спортам, пераможа на спаборніцтвах, і ўсе будуць ёй зайздросціць. І вось яна практыкавалася, практыкавалася, і ейная каманда атрымала золата на Алімпійскіх гульнях, і дзяўчынка вярнулася дадому з медалём. Яе ўсе віншавалі, а аднойчы нават запрасілі на тэлевізію. А папраўдзе ёй было вельмі самотна, і ніхто яе не разумеў".

Маленькая Пісьменніца паслініла пальчык і перагарнула старонку. "Божа, што за лухта", — тужліва падумаў я.

— Гісторыя другая. "Пра хлопчыка, якога адусюль выганялі". "Жыў-быў хлопчык. У дзяцінстве, заміж таго, каб бадзяцца па вуліцах, ён чытаў кніжкі і вырас вельмі разумным ды сумленным. Ён шчыра хацеў зрабіць людзям шмат добрага, і, каб спраўдзіць свае мэты, гатовы быў ахвяраваць жыццём. Таму ён пайшоў у грамадскія арганізацыі і стаў працаваць. Нават дзяўчыны ён не меў — гэтак працаваў. Але ў адной арганізацыі хлопчык прыкмеціў, што такія-сякія людзі працуюць не дзеля Светлае Ідэі, а зарабляюць грошы. Ён шчыра абурыўся і пачаў з гэтым змагацца, але ягоным былым сябрам, якія раней віталіся з усмешкаю, гэта не спадабалася. Яны сабраліся і пагадзіліся: "Хлопчык нам замінае". І падступным чынам выгналі яго з арганізацыі. Хлопчык пакрыўдзіўся, але ўважыў гэта за памылку, ды пайшоў у іншую арганізацыю. Але там гісторыя паўтарылася. І ў трэцяй, і чацвёртай, і ў пятай арганізацыі. Хлопчык хацеў вынішчыць чалавечыя заганы, але яго адусюль выганялі праз ягоную шчырасць. І тады хлопчык сказаў сам сабе: "Мне ніхто не патрэбен", і стаў сядзець дома ды ні за што не змагацца. А папраўдзе яму было вельмі-вельмі самотна, і ніхто яго не разумеў".

"Божа, завяла казку пра Белага Бычка", — я ўздыхнуў і ціўком зірнуў на гадзіннік. Маленькая Пісьменніца набрала паветра ды працягвала.

— Гісторыя трэцяя. "Аб прасталытцы". "Жыла-была прасталытка. Яна не заўсёды была прасталыткаю, а спачатку вучылася ў школе. Але затым ейныя бацькі загінулі, і ў яе нікога не засталося,і ніхто не даваў ёй грошай за так. І аднойчы, калі дзяўчынка пачала страчваць прытомнасць праз голад, яна стала прасталыткаю. Шторазу, як наведнікі сыходзілі, ёй было моташна, і ніякім мылам, і ніякаю вяхоткаю прасталытка не магла адцерці з сябе наведнікавых адбіткаў. І неўзабаве ў ейнай галаве засталіся адно аблічча гэных наведнікаў, і яна ні пра што не магла думаць. І дакументаў прасталытка не мела, і грошы ў яе забіралі, і білі. І калі яна ўвечары стаяла пры дарозе, іншыя дзяўчаты, у якіх бацькі не загінулі, паказвалі на яе пальцам ды казалі: "Фэ-э-э-э!" І яна іх ненавідзела. І мужчынаў ненавідзела. І ўсіх іншых. А папраўдзе ёй было вельмі-вельмі самотна, і ніхто яе не разумеў".

Маленькая Пісьменніца пацягнулася па цыгарэты, загрымела касцянымі пацеркамі, траха не перакуліла кавы, апаліла валасы запальнічкаю. "Аніякі дурань з табою не ажэніцца, бядачка, — моўчкі пашкадаваў я, гледзячы на гэны цырк, — сыходзь лепш у кляштар, пакуль не позна", — і мяне перасмыкнула, бо я таксама падумаў чужымі думкамі.

— Гісторыя чацвёртая. "Пра забойцу". "Жыў-быў забойца. Ён зваўся Кілер. Праца ягоная была цікавая і складаная, да таго ж, за яе досыць добра плацілі. Таму ён жыў у шыкоўнай кватэры ў цэнтры места, з вокнамі на вялікі пляц. І ў вольныя ад працы дні забойца-кілер любіў стаяць на гаўбцы ды пляваць на людзей. І яму прыемна было думаць: "І цябе я магу забіць, і цябе, сволач у капелюшы, і цябе, паскуда, і цябе! Вы мяне не любіце, і ніколі не любілі, а я вас не проста ненавіджу, я вас магу забіць! Звяры забіваюць адно аднаго, і гэта натуральна. І людзі забіваюць адно аднаго — выжывае мацнейшы!" Але аднаго разу забойцу злавілі, пасадзілі ў вязніцу ды расстралялі. І калі ён стаяў з заплюшчанымі вачыма і па нагах нешта цякло, забойца чамусьці згадаў не мазгі і кроў на падлозе, а сваю маці, якую ён вельмі любіў. А папраўдзе яму было вельмі-вельмі самотна, і ніхто яго не разумеў".

Я згадаў, што мне заўтра падымацца а шостай, і падліў сабе кавы.

— Гісторыя пятая. "Пра лесбіянку". "Жыла-была дзяўчына. І была ў яе сяброўка, з якою яна сябравалі яшчэ з школы. Асабістае жыццё ў дзяўчыны чамусьці не ладзілася: хлопцы ўсе яе кідалі, нягледзячы на тое, што была яна і разумная, і прыгожая, нічым не горшая, а ў нечым лепшая за іншых. І толькі найлепшая сяброўка заўсёды разумела яе, заўсёды выслухоўвала ды шчыра дапамагала, як магла. І вось аднойчы, а мінула ўжо шмат гадоў, дзяўчына зірнула на сваю сяброўку, заўважыла, што вочы ў яе глыбокія-глыбокія, зразумела, што нікога яна ў гэтым свеце, апрача сяброўкі, не мае, і што ёй, акрамя сяброўкі, аніхто не трэба. І стала з ёю жыць. Дзяўчына думала гэтак: "Якая розніца, з кім чалавек жыве? Галоўнае, каб ён рабіў дабро іншым людзям. Якая розніца, каго чалавек любіць? Дзяўчына, хлопец — усё адно гэта чалавек, галоўнае, каб усе былі шчаслівымі". Але іншыя людзі гэтак не думалі чамусь. Нават іхныя сябры перашэптваліся за спінаю, а з пэўнага часу зусім пакінулі вітацца. "Чаму людзі супраць мяне?" — думала дзяўчына, і было ёй самотна, бо ніхто яе не разумеў".

— Яна ж мела сяброўку. Ты ж была чытала, што яна яе разумела, — дарэшты сказаў я, і раптам, зусім незнарок, голасна пазяхнуў. Маленькая Пісьменніца страпянулася.

— Слухай, я маю сто гісторыяў, дзе ніхто нікога не разумее, і ўсім вельмі-вельмі самотна, і гэта вельмі істотна, ты даруй, ужо позна, я табе пакуль толькі дзве апошнія прачытаю.

Яна сербанула кавы.

— Гісторыя дзевяноста дзевятая. "Пра намесніка міністра важных справаў". "Жыў-быў намеснік міністра важных справаў..."

"Так, — падумаў я, — та-а-а-ак, та-а-а-ак", — але зноў анічога не сказаў.

— "...і ён быў вельмі заняты і вельмі разумны. Кожны дзень ён рабіў тысячу карысных справаў, ахвяроўваў сябе дзеля Бацькаўшчыны, нават сям'і не завёў, а ўсё працаваў ды працаваў. Ён быў сумленны намеснік, а гэта рэдкая з'ява ў палітыцы, якая, як вядома, вельмі брудная гульня (але не бруднейшая за іншыя). І ён вельмі стамляўся, бо даводзілася рупіцца пра ўвесь народ. А народ пра яго не рупіўся, так, толькі лаяў. Працаваць замінаў. Меў, прыкладам, намеснік адну знаёмую. Яна казала, што "дабра жадае", а сама пяць, уявіце толькі, пяць гадоў штомесяц прыцягвалася, дымам цыгарэтным труціла, тлуміла галаву, у душу лезла! Ціпа, пісьменніца блін!.."

Я сціснуў зубы, каб не сарвацца.

— "...Яму дзяржаўныя справы рупяць, а яна — у душу лезе! У яе, бачыце, каханне няшчаснае! Слухаў яе намеснік ды думаў: "Каб ты, любая, пайшла згэтуль пад гоман жоўтых сосен!" Але ён быў выхаваны і нават аніколі не даў гэнай нібы пісьменніцы па вуху. Сядзей, каву піў, каб не заснуць, і было яму вельмі-вельмі самотна, і ніхто яго не разумеў".

Мне закарцела схапіць гэтае кволае стварэнне ды страсянуць гэтак, каб не бразготкі, а ейныя косткі загрымелі.

— Гісторыя апошняя, сотая. "Пра Маленькую Пісьменніцу". "Жыла-была Маленькая Пісьменніца. Гэтак сталася, што яна трынаццаць год была закаханая ў намесніка міністра важных справаў, яшчэ ад тых часоў, калі ён не быў намеснік ды ашчаджаў грошы на грамадскім транспарце. Натуральна, за трынаццаць гадоў Маленькая Пісьменніца мела даволі часу, каб чытаць і думаць, і яна шмат што спазнала ды шмат што ўцяміла. І пачуццё ейнае да намесніка міністра змянілася. Яна хацела патлумачыць яму, што адзіноту можна падзяліць на дваіх, і праз гэта самоты не будзе меней — толькі больш. Але намеснік быў вельмі заняты, не слухаў яе. Ён меў на гэта права. І яна пісала. Але нават тут яе чакала няўдача: Маленькая Пісьменніца толькі паўтарала ўсім вядомыя праўды. Яна пісала: "Я плаваю ў адзіноце, нібы ў акіяне. Яна глыбокая, зялёная, з залатымі бурбалкамі...", — але разумела — кожны плавае ў такім акіяне... Кожнага цікавіць адно ягоная адзінота. І тады яна наважылася скончыць жыццё самагубствам. Пісьменніца вельмі шмат зразумела, і неадночы бачыла сваю Смерць у вочы, і знала: не пабачыць яна ні свайго пахавання, ані слёз намесніка на магіле, ані пакутаў бацькоў... І гэта добра. Толькі зялёны акіян адзіноты з залатымі бурбалкамі, вялікі, як мільён акіянаў..."

Мяне апанавала жуда. Я ўявіў, які будзе скандал у прэсе, як бацькі гэнае дурніцы пададуць на мяне ў суд, прачытаўшы гэтую лухту, як... І — бывай, палітыка, бывай, шчаслівая будучыня майго народа, бывай, святло ў канцы тунелю!.. Праз гэную вар'ятку балотную...

— Усё, — раптам сказала яна. — Не турбуйся, табе нічога не будзе, — быццам мае думкі прачытала. Узяла торбу, пайшла ў калідор, бразгаючы косткамі, не зважаючы на мяне.

Я глядзеў, як яна закідвае матузкі на вузкую спіну, на старую куртку... Мне хацелася спаць.

— Буду чакаць, — асцярожна сказаў я на ўсякі выпадак.

У дзвярах яна азірнулася, усміхнулася. Луп-луп вачыма.

— Я прыйду. Бывай!

Пстрыкнуў замок. Я пайшоў на кухню. На стале ляжаў забыты ёю пачак цыгарэт, і я, не ведаю чаму, закурыў. Балотны туман падкаціўся да галавы, я памкнуўся да форткі і раптам пабачыў, як яна спускаецца ў метро.

Маленькая Пісьменніца зрабіла мне вялікі падарунак, пакінуўшы спадзеў, што машына збіла яе зусім выпадкова. На пахаванні мне давялося цалаваць у лоб халодны труп з доўгімі валасамі, піць гарэлку і вярзці лухту. Дзьмуў халодны вецер. А папраўдзе мне было вельмі-вельмі самотна, і ніхто мяне не разумеў.

---

[1] *Жыве цэзар, імператар! Тыя, што ідуць на смерць, вітаюць цябе. (лат.)*

# Я ТАК БАЧУ!

**_На шкле, пад якім вісіць фатаграфія, то знікаюць, то з'яўляюцца адлюстраванні людзей. Некаторыя абыякава праходзяць міма, іншыя спыняюцца, зацікаўленна ўглядаюцца. Здаецца, што праз гэтае шкло людзі пераносяцца ў свет фотаздымкаў, на некалькі імгненняў становяцца жыхарамі таго паралельнага свету, які стварае Віктар ГАНЧАРЭНКА. Журналіст. Фотамайстар. Мастак._**

— *Даўно вы ўспрымаеце навакольнае жыццё праз аб'ектыў фотаапарата?*

— Даўно. Каля трыццаці гадоў. Я і сёння дакладна памятаю той пахмурны зімовы дзень, калі не атрымаўшы залік па вышэйшай матэматыцы (тады я вучыўся ў Медыцынскім інстытуце), я ішоў пануры па Віцебску. Па волі лёсу сустрэў Дзітлава, вядомага беларускага фотажурналіста. Ён і прапанаваў мне, тады яшчэ толькі фотааматару, паступіць у прафесійную школу рэпарцёраў пры Саюзе журналістаў. Кінуў інстытут і паехаў вучыцца ў Мінск. З таго ўсё і пачалося.

— *Пра што выстава?*

— Тэма, над якой я працую ўвесь час — экалогія ў спалучэнні з прыродай і вобразам жанчыны. Далей, непрыкрытае, аголенае жаночае цела. Шэраг работ можна аб'яднаць: смаўжы, плады...

— *А чаму менавіта смаўжы?*

— Смоўж, з аднаго боку, як сімвал чагосьці загадкавага і таемнага, той неспасціжнай глыбіні, якая заўжды прываблівае мяне. А з другога боку, як сімвал спіралі. Ідэальная форма (наогул мая любімая), сімвал бясконцасці, праз яе я раскрываю свой свет.

— *У сваіх работах вы не ўзносіце жанчыну, не паэтызуеце яе. Чаму?*

— Дасканалых жанчын няма. Яны вельмі падобныя на мужчын. Толькі мужчыны чамусьці пра гэта забываюць, занадта ідэалізуюць іх. Я ж наогул супраць усяго празмернага. Я не люблю няпраўды! Нават калі гэта датычыцца жанчыны. Яе трэба паказваць такой, якая яна ёсць на самай справе. Я хачу звярнуць увагу саміх жанчын на іх недасканаласць.

— *За што вы папракаеце жанчыну?*

— За іх падманнасць, калі яны выкарыстоўваюць пачуцці мужчын дзеля сваёй карысці. Я не выношу, калі праз пасцель многія жанчыны дамагаюцца сваіх мэт, рухаюцца ўверх па кар'ернай лесвіцы. Мне не падабаецца, калі для многіх галоўнае не каханне, а грошы. Не для гэтага створана жаночая прыгажосць.

— *А дзеля чаго?*

— Дзеля таго, каб яе кахалі, цалавалі, лашчылі. Гэтым жа жанчына павінна адорваць мужчыну.

— *Складваецца ўражанне, што вашы фотаработы — гэта нейкая перасцярога.*

— Я хачу перасцерагчы людзей ад самаразбурэння, якога яшчэ можна пазбегнуць. Мне страшна думаць, что ў навакольным свеце хутка мала чаго застанецца натуральнага, чыстага, некранутага, таго, што было створана прыродай. Я ніяк не магу зразумець, няўжо чалавек настолькі цёмны, неадукаваны, што знішчае ўсё там, дзе жыве! Я не магу змірыцца з тым, што людзі пакідаюць сваім дзецям і ўнукам такое забруджанае наваколле. І таму я такі злы, бязлітасны ў сваіх работах да чалавека.

— *Як можна назваць філасофію вашай творчасці?*

— Я так бачу! І так я здымаю! Ствараю свой свет, які паўстае супраць невуцтва, хціўсці, хамства, прадажнасці. Я разумею, што ўсе мае фатаграфіі не зменяць цэлы свет, што мастацтва і мастак не валодаюць той сілай, якая магла б перамагчы ўсё гэта. Але я спадзяюся, што яны ўсё ж такі пакінуць цаглінку ў чыёй-небудзь пірамідзе думак і асацыяцый. Ужо толькі ў гэтым я бачу сэнс сваёй працы.

Гутарыла Аляксандра ПАПЕЙКА















# 13-я ПАЛАСА

**Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ**

*У творчай звязцы з буслам*
*Адных прывозілі таксісты,*
*Другіх прыносілі буслы.*

*Я радасць знаў і знаў жанчын.*

*Белы бусел, белы бусел —*
*Мой задумлівы сааўтар.*

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

Як рамантыку не любы
Мне таксі ля нашых хатак.
Традыцыйна хай у дзюбах
Буслы носяць немаўлятак.

Павячэраю з Марусяй —
І свішчы-шукай назаўтра.
Прынясе,
як не вярнуся,
Ад мяне канверт Марусі
Белы бусел, белы бусел —
Мой задумлівы сааўтар.

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## ЛІШНЯЯ ВАГА

Каб вагу
Зганяць як след,
Муж купіў
Веласіпед.
І (шапнулі
мне суседзі)
Да маёй
Сяброўкі ездзіў...
Я ж даўмецца
Не магу,
Дзе ён больш
Зганяў вагу?

## СІЛА ЎНУШЭННЯ

Мой няўклюда
Цуд вяршыў:
Муху ўсё
Садзіў на плеш.
Бо сусед
Яму ўнушыў:
— Жыць
"Пад мухай"
Значна лепш.

## У ЗААПАРКУ

— Мама, —
Пытае малая
Ірышка.
— У будачцы гэтай
Таксама мартышка?
— Касірка, —
Адказвае
Важная мама,
Малпы
Без шапак,
А ў гэтай—
Панама.

## МЕРА ХОЛАДУ

Надзя
Скардзілася Ганцы:
— Так холадна
Стала,
Што мая
Сківаца ў шклянцы
Ноччу ляскатала.

## НЕ ТАМ ШУКАЎ

*Детсво воскресло во мне,*
*Маленьким стал я во сне.*
*..............................*
*Ты не пришла на первое свиданье...*
*Ты задержалась в органах природы,*
*Тебя еще на этом свете нет...*
*..............................*
*Мы с тобой, как Адам и Ева,*
*Были еще чисты...*
*..............................*
*Вдруг выскочили три огромных жабы...*
*..............................*
*А ў ног моих лежит деваха...*

**Андрэй СКАРЫНКІН**

Мне сніўся сон, што мы прыйшлі
да згоды:
Дамовіліся ў жмуркі пагуляць.
Стаілася ты ў органах прыроды,
А я ў азарце кінуўся шукаць.

О, як далёка быў я ад распусты!
Не захапляўся модай брыдкіх слоў.
Шукаў разгадку ў качанах капусты,
Пакуль не ўгледзеў угары буслоў.

На крылах сну я нёсся на буслянку,
Птушыны разганяючы анклаў.
Ды ляснула надзея-спадзяванка:
Трох жаб у ногі бусел мне паклаў.

У пошуку я лётаў на ракеце
І нават сніў зялёную траву.
Скажы, нашто мне дурыш галаву?
Цябе самой яшчэ няма ў Сусвеце.

Закралася ў душу паэта скруха,
(Прыдумаў жмуркі на сваю бяду.)
А ты хітрыш, дзяўха. Бляха-муха!
Ну, пачакай! Як вырасту — знайду!

## ВІНО, ДАКТРЫНА І ЧУЖАЯ ЖАНЧЫНА

*Давай пафіласофствуем з табой...*
*Цвярозыя.*
*..............................*
*Налі мне, браток, налі,*
*Прап'ём, што яшчэ не прапіта.*
*..............................*
*На ранку прыйшла адна,*
*Цябе у бакі хістала.*
*Мо выпіла шмат віна...*
*..............................*
*Хіба мы з табой не пара?*
*..............................*
*Адно што здаць шклатару застапося?*

**Мікола ШАБОВІЧ**

"Чужая жанчына",
"Каханне, людзі кажуць, як віно" і інш.

Давай пафіласофствуем з табой
Цвярозыя і без ніякай страсці.
Калі пачуем кліч: "Гарэлцы — бой!",
Ісці мне ў бой ці верш лірычны скласці?

Паэты, ведама, — не каралі.
Кумір — учора, заўтра — карта біта.
Ну, а пакуль налі, браток, налі,
Прап'ём усё, што не было прапіта.

Не буду фарысеем ці ханжой.
На гэты конт — уласная дактрына:
Як ёсць віно, павінна быць жанчына,
І лепей, каб яна была чужой.

Запомніў ноч. Не спалі да відна.
Яна мяне дамоў не адпускала.
Відаць, залішне мы ўзялі віна —
Яе ў той раз крыху ў бакі хістала.

На ранку, задаволены сабой,
З чужой прайшоўся. Чым была не пара?
Адно баяўся: зноў пачнецца бой,
Як толькі будзе здадзена шклатара.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## АДБІЎ КАХАНУЮ ВЯТРЫСКА

*Вятрыска*
*Штоночы*
*Шаптаўся*
*Нясмела...*
*Як ты —*
*Па-жаночы*
*Яго разумела.*

**Уладзімір МАЗГО**

Мы часта
З табою
У парку
Гулялі
І слухалі
Як
Салаўі
Нам спявалі.
Цнатліва
Маўчалі,
Нібы анямеў-
шы,
А побач
Вятрыска
Круціўся —
Байчэйшы.
Адно
На другога
Мы нават уно-
чы
Падняць
Не маглі
Сарамлівыя
Вочы.
Вятрыска ж,
Свавольнік,
Цішком
Забаўляўся.
Ён твар
Табе лашчыў,
Да рук
Дакранаўся.
Бясконца
Шаптаў штосьць,
Хаця і нясмела,
І я адчуваў:
Ты яго
Разумела.
Праз тыдзень
Таму
(Я чакаў
Да світання)
Ты ўжо
Не прыйшла
Да мяне
На спатканне.

## НА РАЗДАРОЖЖЫ

*Жыву, як вольны птах,*
*Між небам і зямлёй.*
*...Вось так: ні там, ні тут.*

**Леанід ПРАНЧАК**

Такі ўжо я дзівак,
Лічы, жыву ў палёце,
Бо вольны я казак,
Мой дом — у самалёце.

Вось толькі прыляцеў
З-за акіяна ўчора,
У Мінску пасядзеў
Цяпер лячу за мора.

А дзесьці працаваць —
Згрызе мяне маркота,
Мне б касманаўтам стаць
Ці лайнера пілотам.

**Марцін КОЎЗКІ**

## КОЎЗАНКІ

• З чэшскай. — Чаму ты не ўмяшаўся, убачыўшы, што мужчына б'е жанчыну. — Дык гэта ж ягоная жонка.

• Паранілі словам, пакрыўдзілі фразай — рэжым пасцельны і незаразна. Патануў у патоку слоў "наш даражэнькі, будзь здароў!" — вось гэта страшна.

• Варта прызнаць, што адкіды — багацце, як усё мяняецца: нікчэмнае даражэе, а дарагое робіцца танным. Ненадоўга, праўда, бо адразу ж даражэе ягонае смецце.

• Непрыкметна мяняюцца вектары. Нас у розныя зносіць канцы. Падаліся дурылы ў лектары, лектары — у прадаўцы.

## МАЯ ПАЛІВАЛКА

*Ты не Цюхай, ты — Ліпскі проста,*
*Хоць і зусім-зусім не просты.*
*Ты дзядзька мондры — ого-го!*

**Эхінопсіс ВУЛЬГАРЫС**

Ты карані радовішча свайго
Так агаліў, наверх дастаў,
Што з разу знакамітым стаў.
Ва ўсіх кутках зямнога шара,
У чорнаскурых нават маўраў
(Не сніў пра тое і не марыў!)
Знайшоў сваячак, сваякоў.
І з забыцця, нібы з акоў,
Іх вызваліў навек-вякоў.
Табе паклон мой самы нізкі,
Таварыш, сябра, о — Вэ. Ліпскі!
Шкада, што не сваяк я твой...
Становішча! Хоць скач, хоць стой!
Аднак.... Ты ж добры агароднік,
А не наўмысны шкоднік-зводнік.
Прысып карэнне. Палівай!
І новых Ліпскіх ураджай
Закаласіцца скрозь і ўсюды!
Бываюць жа на свеце цуды!

Малюнкі Паўла КАРПОВІЧА

# ЖЫЦЦЁ СПЕКТАКЛЯ

***"Белы сон... Монаспектакль паводле твораў Ларысы Геніюш"... Вось і адказ на выкарыстанне чырвонага колеру на афішы. 7 красавіка адбыўся соты спектакль. Гэта своеасаблівы юбілей для Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч", для актрысы Галіны Дзягілевай і гледачоў.***

За 11 гадоў існавання "Белы сон" займеў асабістую гісторыю. Ён сталеў, змяняўся, шмат вандраваў па Беларусі, яго бачылі ў Латвіі, Літве, Польшчы, Нямеччыне і Амерыцы. Амаль кожны год спектакль ставіўся ў Зэльве, дзе доўгі час жыла паэтэса.



Знаёмства з яе творчасцю для Галіны Дзягілевай пачалося напрыканцы 80-х гадоў, калі часопіс "Беларусь" змясціў матэрыялы пра Ларысу Геніюш. У 1990 г. у часопісе "Маладосць" выйшла яе аўтабіяграфічная аповесць "Споведзь". Менавіта ў гэты час з'явілася ідэя стварэння спектакля, якая аказалася блізкая для даўняй сяброўкі Дзягілевай, Вольгі Клебановіч, якая і стала рэжысёрам пастаноўкі.

Шмат разоў перачытваючы аповесць, Галіна Дзягілева выбірала, без чаго нельга абысціся. Гастралюючы па Гродзеншчыне з паэтычнымі монаспектаклямі, актрыса апынулася ў Зэльве. Пабывала ў хаце Ларысы Геніюш, ля яе магілы, гутарыла з суседзямі. Актрыса адчувала, што ў гэтых мясцінах ёй перадаецца пэўная энергетыка самой паэтэсы.

Паступова ўсё злучылася разам: успаміны местачкоўцаў, вершы і словы Ларысы Геніюш аб самой сабе, часе і людзях, перашытае актрысай старое паліто і прапанова мастака В. Маршака пафарбаваць сцэнічны рэквізіт у белы колер.

27 чэрвеня 1992 г. адбылася прэм'ера, выканаўца сустракалася з пляменніцай Ларысы Геніюш — Ірынай Тукальскай, блізкімі сябрамі П. Рашэтнікам і М. Чарняўскім, паэтамі С. Панізнікам і А. Разанавым, пісьменнікамі У. Караткевічам і У. Арловым, якія ведалі Ларысу Антонаўну. Гэтыя размовы дапамаглі актрысе яшчэ глыбей спасцігнуць асобу паэтэсы.

Галіна Дзягілева прызнаецца, што з цягам часу монаспектакль цалкам завалодаў ёю. Чым больш разоў ён ідзе, тым больш робіцца даражэйшым. Пасля аднаго са спектакляў у альбоме водгукаў з'явіўся запіс: "Часам здавалася, што перад намі сапраўды сама Ларыса Геніюш".

Асабіста актрысе гэтая пастаноўка дае магчымасць не проста спачуваць няскоранай жанчыне, а адчуваць хваляванне пры кожным дакрананні да яе трагічнага лёсу, пры спазнанні вытрыманых ёю пакут.

"Белы сон" не ілюстрацыя жыцця нашай суайчынніцы. Гэта заклік да чалавечнасці, чуласці і дабрыні, якіх так не хапае ў сучасным жыцці.

Н. НЯЧАЕВА,
загадчык літаратурнай часткі
тэатра "Зьніч".

*НА ЗДЫМКУ: Галіна ДЗЯГІЛЕВА ў спектаклі "Белы сон". 1999.*

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПЛАТОНА ГАЛАВАЧА

# ЦІ БЫЎ ВІНАВАТЫ ПІСЬМЕННІК?



***Мабыць, найпершае, што характарызавала Платона Галавача ў яго дзейнасці, — яго праўдзівасць і шчырасць. Усё, што ён рабіў, — гэта было яго пераканане, сутнасць яго сумлення. Таму ва ўсё, што ён рабіў, — верылася.***
***Янка СКРЫГАН***

Неўпрыкмет адышло ў мінулае сто год з таго дня, як нарадзіўся Платон Галавач — чалавек, які найбольш ярка сімвалізуе свой час. Яго жыццё, як успышка радасці, натхнення і як трагедыя на ўзлёце. Ён быў беспадстаўна расстраляны 29 кастрычніка 1937 года ў Мінску. У адзін дзень разам з вядомымі беларускімі пісьменнікамі і дзяржаўнымі дзеячамі Анатолем Вольным, Алесем Дударам, Міхасём Зарэцкім, Васілём Кавалём, Валерыем Мараковым, Васілём Сташэўскім, Ізі Харыкам, Міхасём Чаротам, А. А. Вароничанкам, М. А. Ляшковым, А. С. Кучынскім, П. П. Шастаковым і іншымі. Я згодзен з прафесарам У. М. Міхнюком, які адзначыў, што, напэўна, ніколі не было ў гісторыі сусветнай цывілізацыі, каб нацыя страціла ў адзін дзень адразу столькі выдатных талентаў, гэтак патрэбных народу.

Платона Галавача прывяла ў літаратуру баявая камсамольская і партыйная работа, яго імкненне зрабіць слова сродкам выхавання працоўнага чалавека. Ён уваходзіў у літаратуру як актыўны ўдзельнік сацыялістычнага будаўніцтва, як сведка найвялікшых гістарычных падзей. Адсюль тое глыбокае і прачулае веданне жыцця, ус*хваляванасць, ваяўнічая партыйнасць*, грамадзянскі тэмперамент і завостраная сумленнасць, якімі вызначаюцца яго публіцыстычныя і мастацкія творы.

Платон Галавач заўсёды ішоў у нагу з часам, заўсёды быў ля вытокаў фактаў і падзей. Але няміласцівы лёс адвёў яму нядоўгі век: ён пражыў 34 гады. А яго літаратурная, грамадская дзейнасць працягвалася ўсяго дванаццаць гадоў. Гэта былі прамяністыя гады бескампраміснай барацьбы і першаадкрыцця, магутная ўспышка таленту і волі.

Крытыкі 30-х гадоў у адзін голас сцвярджалі, што ўжо першымі творамі ён заняў *выдатнае месца ў беларускай літаратуры*, называлі яго адным з пачынальнікаў беларускай сацыялістычнай культуры. З вялікай цеплынёй гаварылі аб яго таленце пісьменнікі Беларусі і братніх рэспублік. Якуб Колас назваў П. Галавача прадстаўніком новай плеяды літаратараў, якія ставяць злабадзённыя праблемы, уцягваюць у свой паток новыя творчыя сілы. Багацце моўна-стылявых сродкаў маладога пісьменніка адзначаў у сваёй рэцэнзіі Цішка Гартны. У. Лідзін адносіў П. Галавача да тых, каго вызначае прага стварыць новую беларускую літаратуру, страсная вера ў лёс свайго народа. Грузінскі пісьменнік К. Лордкіпанідзе з удзячнасцю *пісаў, што творы П. Галавача выводзяць* беларускую літаратуру з рамак нацыянальнай абмежаванасці, што яны служаць справе інтэрнацыянальнага выхавання працоўных.

І ў той жа час у ацэнках яго творчасці дапушчана шмат блытаніны, суб'ектывізму, супрацьлеглых меркаванняў, не маючых нічога агульнага з метадам марксісцка-ленінскай крытыкі. У штыкі была сустрэта першая вострапубліцыстычная аповесць П. Галавача "Вінаваты", у якой аўтар паўстае супраць эгаізму, коснасці, бюракратызму.

26-гадовы аўтар смела адстойваў чалавечыя адносіны паміж людзьмі і звярнуў увагу на вялікую небяспеку для новага грамадства — неабгрунтаваную падазронасць і рэпрэсіі кіруючых кадраў і простых грамадзян. Сцвярджаючы, што палітычная пільнасць, змаганне з чыноўнікамі царскіх часоў нельга адрываць ад грамадскай павагі да чалавека, Галавач востра паставіў для свайго часу вельмі надзённае пытанне: "Чалавек ці анкета, давер'е да чалавека ці падазронасць?"

Адным з першых у беларускай савецкай літаратуры ён аналізуе чалавека ў новых грамадскіх адносінах, з маральнаэтычнага боку. Аднак некаторыя крытыкі памылкова лічылі, што пісьменнік не павінен быў выдаваць твор з ярка выражанай палітычнай тэндэнцыяй, што яму здрадзіла класавае пачуццё. Толькі зрэдку можна было ўбачыць суцішальную фразу: "Безумоўную цікавасць уяўляе аповесць Платона Галавача "Вінаваты", — пісаў Барыс Мікуліч. Ды шматлікія чытачы дасылалі свае добразычлівыя водгукі. Многія з іх знаходзілі падабенства свайго лёсу з лёсам героя. Гэта дэталь указвае на выключную сувязь сюжэта з жыццём, з хвалюючымі патрэбамі часу.

У сваёй аповесці Галавач імкнуўся глыбей зразумець чалавека, які не адарваўся звычак старога і да новых высакародных якасцяў не дасягнуў. Ужо ў канцы 20-х гадоў ён заўважыў, што малаадукаваны баязлівы чалавек, выкарыстоўваючы новыя ўмовы, пачаў прыстасоўвацца, прымазвацца, двурушнічаць. Знайсці момант ісціны было цяжка. Слабы інтэлект, адсутнасць вопыту вольнага самаіснавання не вытрымлівалі цяжару маральна-палітычнага аналізу. Пасыпаліся супрацьстаянні, памылкі як "пакутлівае пакаранне на нашу гістарычную адсталасць" (А. Багданаў). Сорамна казаць, але нават партыйцы-кіраўнікі не змаглі зразумець, што сын не павінен адказваць за мінулае бацькі, што чалавек — гэта комплекс добрых спраў, а не зламысных слоў. "Пра гэта варта крычаць, каб счула ўся грамадскасць". Пакуль партыя пазнавала правы і пачуцці чалавека, пайшлі рэпрэсіі па лініі АДПУ.

Даводзіцца толькі здзіўляцца, як паспяваў ён за магутнай хваляй розных падзей і мерапрыемстваў! Усю сваю энергію, творы і арганізатарскі талент Галавач аддаваў выхаванню маладога пакалення — тут арганічна спалучаліся яго клопаты і абавязкі сакратара ЦК камсамола рэспублікі і рэдактара газеты "Чырвоная змена". Ён разумеў, што будаўніцтва новага не можа абысціся без перавыхавання людзей, без фарміравання ў іх свядомай *псіхалогіі, навуковага светапогляду*. Ён пісаў, што класавыя ворагі ўлічваюць значэнне таго, за кім пойдзе моладзь у маючых адбыцца баях, што яны імкнуцца ўзмацніць свой ідэалагічны ўплыў на юнакоў і дзяўчат. Выдатную ролю адыграла маладзёжная газета па збіранні і выхаванні маладых літаратурных талентаў. Вакол яе групаваліся пачынаючыя паэты і празаікі П. Броўка, А. Звонак, В. Каваль, А. Куляшоў, Я. Скрыган, М. Хведаровіч і іншыя. Іх творы часта друкаваліся на старонках газеты, абмяркоўваліся ў рэдакцыі. І сам рэдактар змясціў нямала злабадзённых артыкулаў.

5—14 лютага як дэлегат Платон Галавач знаходзіцца на XII з'ездзе КП(б) Беларусі. Слухае *справаздачу* Я. Б. Гамарніка, даклады М. М. Галадзеда, І. А. Васілевіча, М. М. Каркліна, А. Я. Калніна і іншых. Разгарнуліся гарачыя спрэчкі па пытаннях унутрыпартыйнай дэмакратыі, скрыўлення партлініі, барацьбы з "ухіламі" і іншадумствам. Напрыклад, старшыня Цэнтральнага праўлення прафсаюза працаўнікоў асветы Антон Платун гаварыў, што па не згодных трэба "ўдарыць, як належыць, ударыць так, каб у сяго-таго пер'е пасыпалася". Вядома ж, ён улічваў абвастрэнне барацьбы, павелічэнне колькасці праціўнікаў, але П. Галавач не згадзіўся з ім. Сакратар ЦК камсамола выказаўся больш удумліва і спагадліва: "...неабходна не толькі патрабаваць "крывавых ахвяр", а трэба побач з самай *бязлітаснай барацьбой весці і выхаваўчую* работу", каб "вінаватыя" прыйшлі да партыі з павіннай і "прызналі свае памылкі" (Стэнаграфічная справаздача XII з'езда КП(б)Б. Мн., 1929. С. 128). На жаль, прыхільнікаў Галавача амаль што не аказалася, большасць прамоўцаў патрабавалі непазбежных ахвяр.

А жыццё патрабавала не ахвяр, а шукальнікаў, разважлівых аптымістаў.

Шуканнем новых форм, тэм, новага героя жыў маладзёжны часопіс "Маладняк", членамі рэдкалегіі якога былі П. Галавач, А. Звонак, В. Каваль, А. Моркаўна, А. Сянкевіч і іншыя. У мінулым, 1928 годзе, за свае нацыянал-дэмакратычныя настроі яго вымушаны былі пакінуць Алесь Дудар і Міхась Зарэцкі. Новаму кіраўніцтву трэба было выводзіць часопіс з крызісу, абнаўляць яго накірунак.

Пераходны час прыспешваў Платона Галавача, які быў жывым сведкам таго, што радавала ці засмучала. Умацоўвалася беларуская дзяржаўнасць (у межах СССР), адраджалася нацыянальная культура, навука і літаратура, ажывала беларуская мова. Галавач тонка адчуваў дзеянні органаў мясцовай улады, добра разумеючы, што ўсякая палітыка вядзецца праз людзей. Ён выбіраўся членам ЦВК БССР у 1927—1935 гадах і заўсёды адчуваў сябе чалавекам, патрэбным народу і дзяржаве. Яму даводзілася шмат пісаць аб дзяржнарыхтоўках, дзяржгандлі, дзяржбяспецы, абараняць *аўтарытэт мясцовай улады і гонар айчыннай гісторыі*.

Яму пашанцавала, ён жыў і набіраўся сіл сярод таленавітых пісьменнікаў, з якімі можна было разважаць пра свае мэты і парыванні, надзеі і здзяйсненні, ідэалы і засмучэнні. Яго шчырымі сябрамі былі Янка Купала, Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Васіль Каваль, Аркадзь Куляшоў, Міхась Лынькоў, Янка Скрыган. На іх лепшых творах ён вучыўся пісаць і многім абавязаны ім за школу чалавечнасці і пісьменніцкага прафесіяналізму.

Так здарылася, што найбольш глыбокую спагаду і падтрымку ён зведаў ад Янкі Купалы. З вялікай павагай адносіўся народны паэт да яго грамадскай і творчай дзейнасці, да яго сумленнага служэння свайму народу. Не адзін год звязвала іх шчырая высакародная дружба.

Яны сустракаліся ў хатніх абставінах, у рэдакцыях, выдавецтве, у Саюзе пісьменнікаў. Яны абменьваліся думкамі ў Доме ўрада, на Усебеларускіх з'ездах Саветаў, пасяджэннях ЦВК, на з'ездах камсамола рэспублікі. Яны разам падарожнічалі па краіне. У складзе брыгады беларускіх пісьменнікаў Я. Купала і П. Галавач прысутнічалі на ўрачыстым адкрыцці Днепрагэса, наведалі Краматорскі машынабудаўнічы і Харкаўскі трактарны заводы, на параходзе "Анохін" аглядалі Беламорска-Балтыйскі канал, разам ездзілі на Асінбуд і Мар'інскія балоты. Разам былі ў Маскве, на першым Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў, у гасцях у Максіма Горкага. *Побач былі і тады, калі ў Мінск, у госці да* беларусаў прыязджалі пісьменнікі братніх рэспублік.

Платону Галавачу было дваццаць два гады, калі ён асмеліўся ўпершыню напісаць пра паэта, да якога ставіўся з вялікаю любоўю. Яго артыкул "Дваццаць гадоў творчасці Янкі Купалы" надрукаваны ў газеце "Звязда" 15 мая 1925 года. Тады ён яшчэ не быў пісьменнікам, яго першае апавяданне "Загубленае жыццё" з'явіцца праз чатыры месяцы, а першы зборнік "Дробязі жыцця" — праз два гады. Але ж ён хацеў пазнаць шлях і рой думак выдатнага песняра, усебакова вывучыць яго творчасць, якая заўсёды жыла сацыяльна-палітычнымі матывамі.

Платон Галавач называў Купалу вялікім мастаком, творчасць якога пераконвае, вучыць, выхоўвае. На ўрачыстым вечары, прысвечаным пяцідзесяцігоддзю народнага паэта, ён гаварыў: "Вялікай любові да працоўных мас і вялікай нянавісці да ворагаў наша творчая молодзь будзе вучыцца ў Купалы, аднаго з выдатнейшых паэтаў савецкай эпохі."

Ёсць меркаванне, што Галавач падказаў Купалу тэму шырока вядомай паэмы "Над ракой Арэсай".

Правільнае разуменне творчасці Я. Купалы, жыццесцвярджальнай і папулярнай у народзе, дапамагала маладому пісьменніку творча сталець, шукаць сваіх тэм і сваіх сцяжынак да людскіх сэрцаў. Шчаслівы лёс звёў Платона Галавача з найвыдатнейшым паэтам, і яны крочылі адным шляхам, здарался, цяжкім і драматычным. У пачатку 1932 года Галавач рэдагаваў шосты том збору твораў Янкі Купалы, 25 сакавіка падпісаў яго да друку. Кніга *выйшла, і на рэдактара з усіх бакоў пасыпаліся* папрокі: як гэта ён прагледзеў кла-

сава варожыя вершы Купалы. Размова ідзе аб некаторых вершах, ад якіх вее няверʼем, маркотай, але варожымі іх нельга назваць.

Ці варта было вульгарна-сацыялагічным крытыкам зневажаць за гэта Купалу, абвінавачваць яго ў нейкай варожасці, нацыяналізме? Самае прыкрае ў тым. што абвінавачванні сыпаліся ад нас саміх — ад нейкіх літаратараў, якія былі сучаснікамі Купалы і Галавача. Бо гэта быў час, калі пад прыкрыццём фраз аб барацьбе з ворагамі сацыялізму дзейнічалі розныя карʼерысты ад літаратуры, дагматыкі і фальсіфікатары. Гэта яны, у якіх на твары блукала "напускная ганарлівасць і напышлівасць", здолелі прыстасавацца і свядома ці несвядома ("Услужливый дурак опаснее врага") наносілі ўдар за ўдарам. Тым не менш П. Галавач атрымаў спагнанне, фармулёўка якога была наступнай: "Тав. Галавачу П., што прапусціў у рэдагаваным ім зборніку (том VI) вершаў Купалы рад адкрыта-нацыяналістычных, класава-варожых твораў таго перыяду, калі Купала ў сваёй творчасці выразна адлюстроўваў нацыянал-дэмакратычныя ідэі, у асаблівасці без рэдакцыйных заўваг і палітычнай іх ацэнкі, — абвясціць суровую вымову з папярэджаннем" (Полымя рэвалюцыі. 1933. № 3—4, с. 202). Такое не праходзіла бясследна. Па-першае, зʼявіўся яшчэ адзін рубец на сэрцы "вінаватага". Па-другое, — узбагацілася кампраметацыя. Узнікне якая падазронасць, будзе чым узмацніць "справу".

Пасля гэтай нашумелай гісторыі сяброўства паміж Я. Купалам П. Галавачом яшчэ больш узмацнілася. Яны сталі часцей сустракацца, не зважаючы на дрэнныя паслугі пустых добразычліўцаў ці скрытых ворагаў.

Платона Галавача пастаянна хвалявалі праблемы дружбы народаў, сувязі беларускіх пісьменнікаў з літаратарамі іншых рэспублік і дзяржаў. Ён шмат ездзіць па краіне, бывае на многіх інтэрнацыянальных вечарах, на якіх абавязкова выступае. У шматлікіх дэлегацыях беларускіх пісьменнікаў амаль заўсёды нястомны П. Галавач, "які сваёй энергіяй і палымянасцю нагадвае Фадзеева". Гэтыя словы літаратуразнаўцы М. Смолкіна цалкам адлавядаюць сапраўднасці. Займаючы ключавыя пазіцыі ў грамадска-літаратурным жыцці рэспублікі, Галавач актыўна ўдзельнічаў ва ўмацаванні інтэрнацыянальных сувязяў беларускай літаратуры з рускай, украінскай, грузінскай, польскай і іншымі літаратурамі.

Немалая заслуга належыць П. Галавачу і ў стварэнні і кіраўніцтве Саюза беларускіх пісьменнікаў, членам праўлення якога ён пастаянна зʼяўляўся. Многа сіл аддаў ён рэдагаванню "Полымя рэвалюцыі". Тыя, каму даводзілася сустракацца з Платонам Галавачом як з рэдактарам, памятаюць яго як вельмі чулага і добразычлівага дарадчыка, які з вялікай увагай адносіўся да твораў маладых і старэйшых пісьменнікаў.

Не шмат паспеў зрабіць за сваё кароткае жыццё Платон Галавач — яго малады, светлы талент толькі набіраўся моцы. Але тое, што ён здолеў напісаць, што змог сказаць у сваіх кніжках, застаецца ў памяці і сэрцах людзей.

Самае цяжкае пытанне: як загінуў Платон Галавач? Архіўныя звесткі сведчаць: "Галавач быў прызнаны вінаватым у тым, што ён зʼяўляўся ўдзельнікам трацкісцкай арганізацыі, па ўказаннях якой вёў падрыхтоўку да тэрарыстычнага акта над адным з кіраўнікоў Савецкай дзяржавы і праводзіў фашысцкую работу ў бытнасць яго сакратаром ЦК камсамола Беларусі..." (НАРБ. ф. 15, воп. 22, спр. 93, л. 160). Гэтае брыдкаслоўе не ўносіць яснасці, у яго немагчыма паверыць. Стандартныя абвінавачванні, можа, і чытаць не трэба — яны выдуманы злаcліўцамі. Яшчэ лягчэй сказаць: загінуў на падставе фальшывых абвінавачванняў. Як гэта магло здарыцца?

У мяне было шмат асабістых сустрэч з Міколам Хведаровічам і Янкам Скрыганам, якія таксама былі рэпрэсіраваны, але выжылі. Яны дапамагалі мне многае высветліць пра П. Галавача і звярнулі ўвагу на дзве акалічнасці. На прававую безабароннасць чалавека 30-х гадоў і самаўпэўненныя ідэалагічна-эгаістычныя хістанні. Яны ведалі, як Галавач змагаўся за Паўлюка Труса, Уладзіміра Хадыку і іншых. Да таго часу павырасталі свае дзяржаўныя дзеячы, свае пісьменнікі — было каму зайздросціць, было з кім спрачацца. Духоўная вышыня адных падштурхоўвала ганебныя інстынкты другіх. У моду пайшлі плёткі, даносы. Пісалі і на Платона Галавача, пісалі па сваёй злой волі, зацямняючы чысты фон яго грамадскага жыцця.

У пісьме да П. Труса Галавач адзначаў, што "дразг не павінна быць", а памылкі ў любой арганізацыі былі і будуць. Былі яны і ў яго. Платона Галавача двойчы слухалі на парткалегіі ЦКК КП(б) Беларусі, на якой старшынстваваў Максім Ляўкоў. Яго абвінавачвалі ў тым, што, будучы сакратаром ЦК камсамола, ён дапамог дваюраднай сястры Марыі "пролезть в комсомол" і паступіць у Магілёўскі медтэхнікум. Гэта, можа, і сышло б яму з рук, калі б не другая акалічнасць. Платон Галавач атрымаў вымову і за "нясвоечасовае паведамленне ЦК і ЦКК КП(б) Б аб тым, што яго родны дзядзька (бацька Марыі) быў сасланы на Салаўкі, як былы царскі ахоўнік" (НАРБ. ф. 15, воп. 22, спр. 147, л. 14). Збіраліся чорныя кроплі памылак, недаверʼя, падазронасці, якія, як караед, дапамаглі знішчыць дрэва жыцця.

**Эдуард КАРНІЛОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук**



# ЗЯМЛЯ Ў НАС ТАКАЯ...

***Я ведаю: нічога не вяртаецца***
***З калодзежа, імя якому час.***
***Ды боязна, што ўнукі запытаюцца:***
***А памяць не засушаная ў вас?***
***Пімен ПАНЧАНКА***

Шмат цудоўных і непаўторных мясцін на нашай зямлі. А ў мяне, сярод іх — дзве сваіх найбольш блізкіх і дарагіх. Першая — вёска Елавец на Хоцімшчыне. Яна ў вярхоўі Бесядзі — маляўнічай, празрыстай ракі, апетай паэтамі, апісанай празаікамі. Другая — вёска Рамель на Століншчыне. Таксама паэтычны край, дзе, як і паўсюль на Беларусі — цудоўныя людзі.

У першай вёсцы прайшло маё маленства, пара станаўлення. З Елаўца я хадзіў у Хоцімск, дзе скончыў сярэднюю школу. Адсюль паехаў вучыцца ў педінстытут, каб ажыццявіць сваю мару — стаць настаўнікам.

У другой жа вёсцы — шмат гадоў працаваў у школе. Там стаў выдатнікам народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь. Тут жыву і зараз. Ужо некалькі гадоў на пенсіі. Тым не менш я часта бываю ў Елаўцы, на сваёй малой радзіме. Вось і апошняя паездка. Многае ўспомнілася...

Тут, у Елаўцы, маёй першай і любімай настаўніцай была Кацярына Фамінічна Ратабыльская, маці народнага паэта Аркадзя Куляшова. Перш за ўсё я пабываў на яе магілцы, што на кладах на ўскраіне Хоцімска. Усклаў кветкі. Таксама ўсклаў кветкі на магілу бацькі паэта Аляксандра Мікалаевіча Куляшова. Пасля завітаў да сястры Аркадзя Аляксандравіча Антаніны Аляксандраўны Пырх. (У сваім эсэ "Лясному рэху праўду раскажу" пра яе расказвае дачка паэта Валянціна Аркадзьеўна Куляшова).

Зараз Антаніна Аляксандраўна на пенсіі. У яе шмат матэрыялаў аб браце-паэце. Яна пазнаёміла мяне з імі, я запісаў успаміны аб класіку нашай літаратуры, каб падзяліцца імі ў Рамелі.

Радасна-шчымлівай была ў мяне сустрэча ў невялікім доміку на ўскраіне Хоцімска на вуліцы Гагарына, 5. Тут жылі родныя цётка і дзядзька паэта Пятра Прыходзькі: Наталля Ігнацьеўна і Максім Савельевіч Прыходзькі. У іх я кватараваў тры гады, калі вучыўся ў 8—10 класах Хоцімскай сярэдняй школы, бо ў нас у Клаўцы, як ужо сказана, была толькі сямігодка.

Цяпер тут жыве пляменнік Наталлі Ігнацьеўны Іван Віктаравіч Холадаў, які мае два дыпломы аб вышэйшай адукацыі. Ён свята захоўвае памяць аб сваіх родзічах і беражліва адносіцца да ўсяго, што падарыў ім Пятро Фёдаравіч Прыходзька, — свае фатаграфіі з сямейнага альбома, кнігі з аўтографамі — "Ранак над Эльбай", "Голас сэрца", аднатомнікі "Прызнанне", "Лісты з паходаў" і іншыя. Пахадзіўшы па пакоях, дзе часта бываў паэт, пасядзеўшы за сталом, на якім некалі рыхтаваў урокі, зноў і зноў прыгадваў пару свайго юнацтва: цудоўная, незабыўная пара.

Затым я прайшоўся па вуліцах вёскі Альшоў, у якой нарадзіўся і доўгі час жыў паэт. Вёска, дарэчы, месціцца побач з гарадскім пасёлкам. Роднай хаты паэта, на вялікі жаль, няма ўжо, але ёсць другі домік, дзе жыла да нядаўняга часу старэйшая сястра паэта Ганна Барабанава. У гэтым доміку часта бываў паэт і зараз падтрымлівае сувязі з яго жыхарамі — ужо зусім іншымі людзьмі... Жыццё ж працягваецца.

Тут, на малой радзіме Пятра Прыходзькі, я даведаўся, што ён не так даўно парадаваў сваіх землякоў новым зборнікам вершаў, балад і паэм "Позняя восень" і асобна выдадзенай гістарычнай паэмай "Дар князёўны", прысвечанай узнікненню мястэчка Хоцімск (XV ст). Шмат у кнігах паэта вершаў і паэм пра нашы родныя мясціны — пра вёскі Альшоў і Ліпаўку, Елавец і гарадскі пасёлак Хоцімск, іх даваенныя і пасляваенныя часіны. Некалі малады паэт Пятро Прыходзька пасля заканчэння Магілёўскага газетнага тэхнікума, працаваў адказным сакратаром Хоцімскай раённай газеты "Калгасная звязда". У ёй былі надрукаваны першыя вершы паэта. Сваім творчаму плёну на пачатку літаратурнага шляху, як успамінае сам Пятро Фёдаравіч, ён абавязаны быламу рэдактару гэтай газеты Дзямʼяну Трафімавічу Лебедзеву. Ён вельмі чула адносіўся да маладых аўтараў. І нездарма яго ў 1939 годзе з раёнкі прызначылі на пасаду галоўнага рэдактара цэнтральнай беларускай газеты "Звязда".



Ля Брандэнбургскіх варот. 1971 г.



У роднай вёсцы з сястрой Ганнай. 1990 г

У Хоцімску ўсе добра ведаюць паэта-земляка. Як мне вядома, Пятро Прыходзька падтрымлівае непарыўную сувязь з землякамі, часта друкуе ў раённай газеце свае новыя творы, прысвечаныя малой радзіме. Хочацца спадзявацца, што мясцовыя ўлады неўзабаве назавуць адну з вуліц райцэнтра імем Пятра Прыходзькі, як гэта робіцца і ў іншых раёнах, дзе жылі, нарадзіліся, жывуць беларускія пісьменнікі.

Зазірнуў я ў краязнаўчы музей. Пагутарыў з яго дырэктарам Іванам Казловым. Дарэчы, музей адчынены дзякуючы хадатайніцтву паэта перад кіраўніцтвам Магілёўскага аблвыканкама і "раённай вертыкалі". Немалую дапамогу аказаў у гэтай справе і мясцовы чалавек — былы дырэктар Трасцінскай сельскай бібліятэкі Міхась Ласоўскі, які ўжо таксама на заслужаным адпачынку.

Не расказаць у кароткіх нататках пра ўсё, што ўбачыў і з чым сустрэўся я ў нядаўняй паездцы на сваю малую радзіму. Узнікае яшчэ і яшчэ раз думка аб тым, што задужа мы сёння плачам, скардзімся на цяжкасці жыцця. Яны, безумоўна, ёсць. Ды ў параўнанні з мінулым нельга ўсё ахайваць ці асуджаць. Ніколі не забыць, як пасля вайны я з сябрам Віктарам Івандзікавым штодзень тупаў пешшу з Елаўца да Хоцімска ў школу па бездарожжы: пяць кіламетраў у адзін бок туды і назад праз вёску Альшоў. Цяпер гэту родную вёску Пятра Прыходзькі злучае з райцэнтрам добра заасфальтаваная дарога, па ёй спецыяльны аўтобус прывозіць і адвозіць вучняў у школу. Школьнікі адзеты, абуты не горш за гарадскіх, накормлены і забяспечаны падручнікамі. Я падʼехаў разам з вучнямі да школы ў Хоцімску. Сустрэўся з настаўнікам Віктарам Міхайлавічам Крывіцкім. Ён падарыў мне сваю брашуру з аўтографам — вучэбны дапаможнік "Геаграфія Хоцімскага раёна". Падумалася: вось выдаць бы ў кожным раёне падобнае, каб людзі ведалі свой край.

Вельмі шкадую, што не ўдалося мне пабываць у вёсцы Чарняўка, што знаходзіцца непадалёку ад Хоцімска. Там жыве і працуе сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Міхась Карпенка, аўтар многіх паэтычных і празаічных кніг. Ён нядаўна пераехаў на сваю радзіму з Узбекістана, дзе жыў і працаваў доўгія гады.

І зноў знаёмы з юнацтва шлях з роднай вёскі Елавец праз Хоцімск да станцыі Камунары, апетай некалі Аркадзем Куляшовым: "Ёсць станцыя такая Камунары, не верыш мне, на карту глянь, таварыш". Затым дарога павяла на Крычаў, Магілёў. Адтуль — кірунак на Мінск, ды на Брэст, у вёску Рамель, якая шмат гадоў таму таксама стала мне роднай. Дарогай думаў: усюды ў нас жывуць добрыя людзі, бо зямля наша, можа, як ніякая іншая, шчодрая на іх.

**Леанід РАМАНЕНКА,**
**выдатнік народнай адукацыі**
**Рэспублікі Беларусь**



**Калектыў рэдакцыі газеты "ЛіМ" выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Янку СІПАКОВУ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці сястры Праскоўі Данілаўны.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Беларусь" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніку часопіса, пісьменніку Янку СІПАКОВУ з прычыны смерці сястры Праскоўі Данілаўны.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Янку Сіпакову з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці сястры.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў глыбока смуткуе з прычыны смерці свайго ганаровага замежнага сябра Зоры Лявонаўны КІПЕЛЬ, літаратуразнаўцы, перакладчыка і публіцыста, і выказвае шчырыя спачуванні сямʼі і блізкім нябожчыцы.**

